Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 8 (4911) 24 лютага 2017 г.



# ПРАГА ДА ЖЫЦЦЯ

## 26 лютага 85 гадоў таму выйшаў у свет першы нумар газеты «Літаратура і мастацтва»

**Газеты як людзі: існуюць у часе і прасторы. Беларуская культурная прастора на пачатку мінулага стагоддзя ўжо патрабавала асэнсаванага адлюстравання: тэм і ідэй, якія ў ёй з'яўляліся, думак і слоў, агучаных у вершах, публіцыстыцы і прозе, з'яў і вобразаў, якія нараджаў час. Адной з культурных з'яў на пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя стала газета, якая асвятляла творчае жыццё рэспублікі. Няпростыя гады як у эканамічным, так і ў сацыяльным плане. Але ўжо зразумела: ёсць асаблівая культура беларускага народа, патрэбы якой неабходна ўлічваць у будаўніцтве новага жыцця. Літаратары і мастакі, драматургі і акцёры, рэжысёры кіно, кампазітары, музыкі стваралі творчую гісторыю Беларусі. «Літаратура і мастацтва» яе фіксавала. Гартаючы старонкі выдання ў розныя эпохі, адчуваеш, наколькі яго лёс сувымяральны з чалавечым: у яго былі радасці і яно адчувала боль, імкнулася падпарадкавацца часу, упісацца ў яго, ці прыходзіла разуменне, што ёсць магчымасць ствараць свой час самім, напаўняць яго сэнсам і даносіць гэты сэнс разам з творцамі, якім неабыякава, дзе яны жывуць і для каго ствараюць. Газеты як людзі: імкнуцца і мараць, умеюць сябраваць і аб'ядноўваюць вакол сябе грамадства, нясуць энергію творчасці і маюць вялікую прагу да жыцця.**



Фота Кастуся Дробава. Калаж Віктара Калініна.

# Класік, бацька, гаспадар

## Вядомыя і невядомыя старонкі жыцця паэта ў музеі Песняра


*Фрагмент выстаўкі «Якуб Колас: вядомы і невядомы» з фондаў музея Песняра.*

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа да 135-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі адбылося ўрачыстае адкрыццё адразу двух адмысловых музейных аб'ектаў: новай стацыянарнай экспазіцыі на мемарыяльнай сядзібе Якуба Коласа ў гаспадарчай пабудове «Склеп» і выстаўкі «Якуб Колас: вядомы і невядомы» з фондаў музея Песняра.**

— Творчасць паэта ілюструе цэлую эпоху ў культурным жыцці краіны, велізарны пласт нацыянальнага жыцця, — падкрэсліла дырэктар музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская.

У юбілейны год разнастайныя мерапрыемствы ў коласаўскім музеі не толькі бліжэй пазнаёмяць з літаратурным геніем класіка, але і дазволяць адкрыць Якуба Коласа з зусім іншага боку: як клапатлівага бацьку і дзядулю, надзейнага сябра, мудрага дарадцу, удумлівага крытыка.

Паэт Мікола Аўрамчык успамінаў: «Шыракаплечы, мажны, па-сялянску просты, са сваёй грувасткай паходкаю, Якуб Колас заўсёды здаваўся мне зямным, хатнім, нават басаногім, якім, дарэчы, мне давялося бачыць яго ў трохі незвычайнай сітуацыі…». Такім простым, хатнім знакаміты пісьменнік паўстане на фотаздымках 1901 — 1956 гадоў, а асабістыя рэчы паэта дапоўняць рэтраспектыву жыцця пісьменніка на выстаўцы «Якуб Колас: вядомы і невядомы».

Працяг на стар. 11 ▶

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі з 65-гадовым юбілеем і 25-годдзем архірэйскай хіратоніі. «Вы прысвяцілі сваё жыццё служэнню Царкве, абароне высокіх прынцыпаў хрысціянскага жыцця. Ваша праца нясе людзям надзею, адкрывае прыгажосць веры, падтрымлівае ў справах міласэрнасці», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што сёння праваслаўе — гэта не толькі маральная аснова беларускага грамадства, але сацыяльны і духоўны інстытут, здольны аказваць значны ўплыў на развіццё сучаснага свету.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага мастака Беларусі Івана Міско з 85-годдзем. «Значным укладам у захаванне і развіццё айчыннага выяўленчага мастацтва, папулярызацыю яго лепшых традыцый і дасягненняў стала Ваша плённая творчасць», — гаворыцца ў віншаванні. Прэзідэнт адзначыў, што Іван Міско стварыў цэлую галерэю партрэтаў нашых вядомых сучаснікаў, а тэма космасу — адна з галоўных у яго работах. «Шчырай павагі і ўдзячнасці заслугоўваюць Вашы талент, прафесіяналізм і грамадзянская адказнасць», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга з 70-годдзем. «Вы ўносіце вялікі ўклад у захаванне і развіццё лепшых музычных традыцый Беларусі, садзейнічаеце папулярызацыі нашай музыкі не толькі ў краіне, але і за яе межамі», — гаворыцца ў віншаванні. «Слоў шчырай удзячнасці заслугоўвае Ваша работа па пошуку і падтрымцы таленавітай моладзі, а таксама актыўная грамадская дзейнасць і ўдзел у важных сацыяльных праектах», — падкрэсліў Прэзідэнт.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў з юбілеямі народных артыстаў Расіі Мікалая Растаргуева і Веру Алентаву. «Шматлікія прыхільнікі ў Беларусі цэняць Вас як таленавітага артыста і музыканта», — гаворыцца ў віншаванні Мікалаю Растаргуеву. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што праца артыста будзе і надалей садзейнічаць збліжэнню народаў Беларусі і Расіі, умацаванню дружбы і культурнага супрацоўніцтва. У віншаванні Веры Алентавай адзначаецца шматгранны талент, прафесійнае майстэрства, абаянне і бездакорны мастацкі густ. «Няхай Ваша плённая дзейнасць і ў далейшым дорыць гледачам радасць, натхненне і добры настрой, садзейнічае ўмацаванню дружбы паміж нашымі народамі», — пажадаў Аляксандр Лукашэнка.

**Міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія АНАНІЧ:**

***— Увесь час свайго існавання, ад самага першага выпуску, газета «Літаратура і мастацтва» адыгрывала важную ролю ў захаванні роднай мовы і культурнай спадчыны нашай краіны, духоўных традыцый і маральных ідэалаў народа. На старонках газеты друкаваліся класікі беларускага пісьменства: Янка Купала, Якуб Колас, Іван Мележ, Іван Шамякін, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў і многія іншыя. Сённяшні «ЛіМ» працягвае традыцыі папярэднікаў, спрые рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры і літаратуры, з'яўляецца адкрытай пляцоўкай для творчых дыскусій. Жадаю супрацоўнікам рэдакцыі, чытачам газеты «Літаратура і мастацтва» плёну ў працы на карысць роднай Беларусі.***

# Класіка? Не толькі ў школе!

Чытанне — гэта развіццё асобы. І спасціжэнне досведу, назапашанага ў кнігах. Такую думку выказала міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч падчас прэс-прэзентацыі рэспубліканскага творчага конкурсу юных чытальнікаў «Жывая класіка».

На нацыянальным узроўні конкурс, заснавальнікі якога — Міністэрства інфармацыі і Міністэрства адукацыі, Саюз пісьменнікаў Беларусі і ЗАТ «Сталічнае тэлебачанне», пройдзе ўпершыню. А яго вынікі будуць падведзены ў Полацку, у межах святкавання Дня беларускага пісьменства. Пераможцы атрымаюць пуцёўкі ў Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы цэнтр «Зубронак».

— Трэба шукаць новыя формы працы з дзецьмі. І не толькі з дзецьмі, але яшчэ і з іх бацькамі, бо цікавасць да слова, да лепшых узораў беларускай літаратуры павінна быць клопатам дарослых. І калі мы бачым, што ў краіне штогод выдаецца вельмі шмат прыгожых, маляўнічых, па-мастацку аздобленых кніг, то хочацца, каб дзіцячае чытанне набыло новы сэнс, каб дзеці звярнулі ўвагу на тое, якая мілагучная беларуская мова, — падкрэсліла міністр інфармацыі Лілія Ананіч.

Адукацыя, інфармацыя і культура — вось тры галіны, якія фарміруюць інтэлектуальную эліту нацыі, ствараюць будучыню. Таму конкурс «Жывая класіка», які павінен паспрыяць творчаму ўзлёту нашай моладзі, — сапраўднае свята беларускага слова. На гэта звярнуў увагу міністр адукацыі Ігар Карпенка.

— Творы нашых класікаў і сёння вабяць трапяткую душу юнага чытальніка! Літаратура, якая выхоўвае з дзяцінства, застаецца з табою на ўсё жыццё, — упэўнена першы намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Алена Стэльмах. Дарэчы, СПБ зацвярджае спецыяльны прыз конкурсу — для самага арыгінальнага чытальніка.




Фота Надзеі Бужан.

*Падчас прэс-прэзентацыі конкурсу «Жывая класіка».*

Кіраўніцтва тэлеканала «СТБ» вырашыла запрасіць да чытання і артыстаў: Віктара Манаева, Таццяну Мархель, Анатоля Ярмоленку. Яны з задавальненнем прадстаўляць свае любімыя вершы беларускіх класікаў.

— Падчас Дня беларускага пісьменства мяркуем зладзіць вялікі канцэрт, каб паказаць не толькі лепшыя ўзоры айчыннай паэзіі, але і тое, што класічная паэзія жыве ды гучыць па сённяшні дзень, — распавёў намеснік генеральнага дырэктара ЗАТ «Сталічнае тэлебачанне» Павел Каранеўскі.

На прэс-прэзентацыю завіталі і самі юныя чытальнікі. Вершы Уладзіміра Дубоўкі, Максіма Танка, Пімена Панчанкі і ўрывак з празаічнага твора Уладзіміра Ліпскага пра Полацк прадэкламавалі Вераніка Ходзіна, Ганна Такушэвіч, Злата Качэрва і Маргарыта Стэльмах. А Уладзімір Ліпскі, галоўны рэдактар часопісаў «Вясёлка» і «Буся», прачытаў радкі са сваёй аповесці-споведзі «Мая Беларусь».

Найлепшыя скарбы — чалавечыя словы. Так гаварыў Скарына. Сёлета, у год 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, конкурс «Жывая класіка» набывае сімвалічнае значэнне. Нездарма ж дэвіз гэтага творчага спаборніцтва — «Чытаем шмат, чытаем разам, ствараем сябе і краіну!».

**Яна ЯВІЧ**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# ШТО ЗА ВЫСТАЎКАЙ?

Саюз пісьменнікаў Беларусі заключыў пагадненне аб супрацоўніцтве з Саюзам пісьменнікаў Славакіі. Цяпер у гэтай краіне, як паведаміў старшыня СПБ Мікалай Чаргінец, рыхтуецца кніга перакладаў на славацкую мову твораў Янкі Купалы, якую мяркуецца выдаць да юбілею Песняра. Гэта — адзін з вынікаў працы пісьменнікаў падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, пра што кіраўніцтва СПБ распавяло падчас прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным прэс-цэнтры Рэспублікі Беларусь.

Айчынныя пісьменнікі прэзентавалі на выстаўцы свае кнігі, ладзілі аўтограф-сесіі. А яшчэ ў трэці раз атрымалі выдатную магчымасць пагутарыць з замежнымі творцамі падчас круглага стала ў Доме літаратара, міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час» і семінара маладых аўтараў, каб пашырыць кола творчых кантактаў. Са сваімі новымі кнігамі гасцей выстаўкі пазнаёмілі Мікалай Чаргінец, Іван Саверчанка, Георгій Марчук, Валерый Чудаў, Іна Фралова, Тамара Бунта ды іншыя беларускія аўтары — амаль 200 творцаў. І было што паказаць: за год выдадзена больш як 500 кніг сяброў СПБ, у тым ліку маладых!

У рэспубліканскім конкурсе маладых літаратараў «Першацвет» паспелі паўдзельнічаць 160 пачаткоўцаў. А цяпер стартуе новы літаратурны конкурс для ўсіх узроставых груп — «Скарынавай душой узлашчанае слова», прысвечаны 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. Яго вынікі будуць падведзены да 1 ліпеня 2017 года.

**Яна ЯВІЧ**

# Пошук родных слядоў

У Вільнюсе ўчора, 23 лютага, пачала сваю працу традыцыйная кніжная выстаўка. Галоўны лейтматыў працы экспанентаў, выдаўцоў, пісьменнікаў і паліграфістаў — пошук повязі з Літвой усяго свету, усіх старонак і ўсіх народаў. Літоўскі след… Відавочна, што ён выяўляецца не толькі ў біяграфіях суседніх краін, але і тых прастораў, што раскінуліся за тысячы кіламетраў ад старажытнага, багатага на знакамітых сыноў і дачок краю.

Беларускія выдаўцы, паліграфісты, навукоўцы, кнігазнаўцы на чале з Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь прадстаўляць у Вільнюсе выданні апошняга часу — тыя кнігі, якія так ці інакш звязаны з легендарным Францыскам Скарынам. Дарэчы, у межах работы беларускага стэнда пройдуць самыя розныя прэзентацыі, прысвечаныя 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. А ў гімназіі імя Ф. Скарыны г. Вільнюса зладзяць круглы стол з удзелам намесніка дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі кандыдата культуралогіі Алеся Сушы, члена-карэспандэнта Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі доктара філалагічных навук Аляксандра Лукашанца, намесніка міністра інфармацыі нашай краіны Алеся Карлюкевіча.

Вільнюскія сустрэчы ў гонар 500-годдзя беларускага кнігадрукавання — толькі малая частка велізарнай працы па прадстаўленні ў свеце беларускай культуры, беларускага асветніцтва, самой нашай краіны ў знакавы для айчыннай гісторыі год.

**Сяргей ШЫЧКО**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**27 лютага** *— у літаратурны клуб «Спадчына» пры гімназіі № 35 на імпрэзу «І гучала слова беларускае» з удзелам пісьменніка Навума Гальпяровіча. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**28 лютага** *— на творчую сустрэчу са старшынёй секцыі прозы СПБ Наталляй Касцючэнка ў Беларускую дзяржаўную акадэмію авіяцыі (вул. Убарэвіча, 77). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**28 лютага** *— на літаратурны праект «Лёс у далонях», у межах якога адбудзецца юбілейны творчы вечар празаіка Уладзіміра Уладзімірава. Імпрэза ладзіцца ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак у 17.30.*

**1 сакавіка** *— на творчую сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Пазняковым «Святло дабрыні» ў дзіцячую бібліятэку № 3 (вул. Бачылы, 2). Пачатак у 11.40.*

**1 сакавіка** *— у літаратурную гасцёўню «Аўтограф» пры інтэрнаце № 8 БДЭУ (вул. Карбышава, 42) на творчую сустрэчу з пісьменніцай Маргарытай Латышкевіч «У першы дзень вясны». Пачатак а 17-й гадзіне.*

**2 сакавіка** *— на літаратурна-музычную імпрэзу «Апошні снегапад» у дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27) з удзелам пісьменнікаў аддзялення і сяброў студыі юных літаратараў «Малінаўскія галасы». Пачатак у 13.30.*

**2 сакавіка** *— у Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа на фінал Мінскага гарадскога конкурсу чытальнікаў паэзіі Беларусі. Пачатак у 15.00.*

**3 сакавіка** *— у літаратурны клуб «Творчыя сустрэчы» пры публічнай бібліятэцы № 8 імя Максіма Багдановіча (вул. Даўгабродская, 12/2) на паэтычна-музычную імпрэзу, прысвечаную Дню абаронцаў Айчыны і Міжнароднаму дню жанчын, з удзелам паэтаў Мікалая Іванова, Міхася Пазнякова і спевака Сяргея Краўца. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**4 сакавіка** *— на юбілейны вечар паэтэсы Кацярыны Массэ ў музей «Прастора Хаіма Суціна» (г. п. Смілавічы). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**24 лютага** *— на пасяджэнне літаратурнага клуба «ПіНЧУКі» ў цэнтральную раённую бібліятэку імя Я. Янішчыц. Пачатак а 15-й гадзіне.*

**25 лютага** *— на творчую сустрэчу «Сучасная беларуская паэзія» з удзелам берасцейскіх паэтаў ў клуб «Муза» Лунінецкага ГДК. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**25 лютага** *— на творчую сустрэчу з паэтам Міхаілам Куляшом у Пінскі дзяржаўны будаўнічы ліцэй. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**28 лютага** *— на творчую сустрэчу з паэтам і журналістам Георгіем Тамашэвічам у Прылукскую базавую школу Брэсцкага раёна. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**Мікалай ЧАРГІНЕЦ, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі:**

***Голас пісьменніка са старонак «ЛіМа» заўсёды гучаў у будучыню — з непакоем і перасцярогай, з заклікам помніць пра ўрокі мінулага, берагчы спадчыну, ніколі не губляць нацыянальную годнасць. Гэта трыбуна, няхай так высока будзе сказана, для вялікай гутаркі з шырокім чытацкім колам.***

***Сама газета — любімая сяброўка для многіх пакаленняў беларускіх творцаў. На яе старонках — «адбіткі» першых крокаў пачынаючых аўтараў, а праз час — публікацыі пра іх жа, знакамітых, шаноўных, народных... Газета ва ўсе часы — добры дарадчык у творчасці, шчыры сябар у жыццёвых клопатах, якіх пісьменнікам, як усім творчым людзям, таксама не займаць.***

# НОВЫЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ СУПРАЦОЎНІЦТВА З КІТАЕМ

**Закладзены падмурак новай старонкі ў развіцці беларуска-кітайскіх выдавецкіх і літаратурных стасункаў. Гэта звязана з візітам групы кітайскіх выдаўцоў у Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**



*Фота Надзеі Бужан.*

*Падчас сустрэчы ў Міністэрстве інфармацыі.*

Удзел у сустрэчы ўзялі: з кітайскага боку — група выдаўцоў на чале з кіруючым дырэктарам выдавецтва Пекінскага ўніверсітэта замежных моў (для даведкі: штат выдавецтва — болей як 3000 супрацоўнікаў) спадаром Пэн Дулінем; з беларускага — намеснік міністра інфармацыі Алесь Карлюкевіч, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Павел Сухарукаў, начальнік міжнароднага сектара Мінінфарма Андрэй Чэрнікаў, адказны сакратар часопіса «Полымя» Юлія Алейчанка.

Галоўнай тэмай сустрэчы стала абмеркаванне перспектыў супрацоўніцтва ў галіне ўзаемных перакладаў і выдання літаратурных твораў Кітая і Беларусі. Асновы такога ўзаемадзеяння закладзены Мемарандумам аб супрацоўніцтве паміж Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Галоўным дзяржаўным упраўленнем па справах прэсы, выдавецтваў, радыёвяшчання, кінематаграфіі і тэлебачання Кітайскай Народнай Рэспублікі па «Праекце перакладу і публікацый класічных літаратурных твораў Кітая і Беларусі на 2015 — 2020 гг.», падпісаным у 2015 годзе. Тады Кітай быў ганаровым госцем на XXII Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы.

Беларускі бок расказаў на сустрэчы ў Мінінфарме пра зробленую працу, публікацыі перакладаў у літаратурна-мастацкіх часопісах — «Полымя», «Нёман», «Маладосць», газеце «Літаратура і мастацтва» ды іншых выданнях. Варта адзначыць, што многія праекты здзяйсняюцца пры падтрымцы Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Удзел у сустрэчы ўзяла і спадарыня Лю Сулін, намеснік дырэктара Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ.

У сваю чаргу прадстаўнікі КНР праінфармавалі пра досвед па рэалізацыі сумесных праектаў з рознымі краінамі свету — Албаніяй, Ізраілем, Партугаліяй, Расіяй, Шры-Ланкай. Бакі дэталёва абмеркавалі практычныя аспекты супрацоўніцтва, а таксама дасягнулі дамоўленасці аб падпісанні асобнага дакумента з Выдавецкім домам «Звязда» альбо з іншым дзяржаўным выдавецтвам.

**Сяргей ШЫЧКО**

## Дайджэст

• Выстаўка «Праўда пра Курапаты» адкрытая ў сталічным Палацы мастацтваў. Яна ўключае здымкі, сведчанні, дакументы, знойдзенныя за апошнія паўтара года. Стэнд "Зона" прысвечаны гістарычнай тапаграфіі Курапатаў. Вядома, дзе стаялі будкі і назіральныя вышкі, вядомыя два маршруты, якімі людзей везлі на расстрэл з турмы НКУС. Таксама выявілася, што Міхась Зарэцкі жыў у вёсцы Цна. Верагодна, побач з домам, у Курапатах, яго і расстралялі. На выстаўцы будзе прадстаўленая гісторыя чалавека, які ўратаваўся ад расстрэлу. Сільвестр Мацкевіч, пчаляр з Драгічыншчыны, быў арыштаваны ў канцы 1940-га, а ў пачатку вайны яго разам з іншымі вязнямі прывезлі ў Курапаты і расстралялі з кулямёта. Кулі не закранулі чалавека, і калі нкусаўцы з'ехалі, ён выбраўся з-пад целаў і вярнуўся ў родную вёску. Арганізатары выстаўкі абяцаюць моцную мастацкую частку: жывапіс, графіка, скульптура, інсталяцыя. Апроч таго, будзе стэнд з работамі, дасланымі на конкурс «Курапаты — народны мемарыял», сярод якіх — праекты мемарыялу, створаныя польскімі і беларускімі архітэктарамі, вершы і карціны знакамітых ды маладых творцаў.

• У сецівe з'явіўся незвычайны сервіс, што займеў назву «Купала поштай». На старонцы *kupalaposhtai.by* можна афарміць рассылку для тых, хто хоча больш ведаць пра беларускую літаратуру, але каму заўсёды не хапае часу. Дастаткова пакінуць адрас электроннай пошты — і кожны дзень у скрынцы будзе з'яўляцца новы верш Янкі Купалы. Усяго арганізатары падрыхтавалі сотню вершаў.

• Пад водамі Ціхага акіяна, у паўднёва-заходняй частцы, размяшчаецца сёмы кантынент Зямлі. Да такой высновы прыйшлі геолагі з Новай Зеландыі, Аўстраліі і Новай Каледоніі. Кантынент займеў назву Зеландыя. Плошча яго — каля пяці мільёнаў квадратных кіламетраў. Вялікая частка, прыкладна 94%, размешчаная пад вадой, сярод наземных элементаў — выспы Новая Каледонія і новазеландскія выспы Паўночная і Паўднёвая. Зеландыя, паводле ацэнак навукоўцаў, пачала адколвацца ад старажытнага суперкантынента Гандвана каля ста мільёнаў гадоў таму. Аўтары прапануюць павялічыць колькасць геаграфічных кантынентаў, далучыўшы да іх і Зеландыю.

## Конкурсы

# ПРЫСТУПКІ ДЛЯ ПАЧАТКОЎЦАЎ

**Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі абвясціла два абласныя літаратурныя конкурсы.**

Беларускамоўнае творчае спаборніцтва для дзяцей і юнацтва «Мне засталася спадчына» прысвечана 135-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Вершы і кароткія апавяданні прымаюцца па 10 красавіка на адрас аддзялення: 224013, г. Брэст, пр-т Машэрава, 75/1, к. 605. Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца вучні 8 — 11 класаў.

Сумесна з рэдакцыяй абласной газеты «Заря» ладзіцца конкурс кароткага апавядання, мэта якога — падтрымаць літаратараў-пачаткоўцаў. Лепшыя творы будуць апублікаваны на старонках газеты.

Працягваецца прыём твораў на літаратурны конкурс маладых паэтаў «Мы рождены для вдохновенья», які праводзіцца ў рамках сёмага фестывалю рускай паэзіі ў Рэспубліцы Беларусь «Созвучье слов живых». Свята рускай паэзіі, на якім будуць узнагароджаны пераможцы, адбудзецца ў маі. Да ўдзелу запрашаецца моладзь 18 — 35 гадоў з усёй краіны. Тэрмін правядзення адборачнага тура — да 15 красавіка. Творы можна дасылаць на электронны адрас *krasl53@mail.ru*.

**Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ,**
**старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ**

# На 30 мовах свету

## прагучалі творы Янкі Купалы

Дзень роднай мовы Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь вырашыла адзначыць разам з Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы: сёлета споўнілася 135 год з дня нараджэння беларускага паэта, які ў сваёй творчасці ўзняў беларускае слова на новы ўзровень. 21 лютага на імпрэзу пад назвай "Я нясу вам дар" сабраліся прадстаўнікі шматлікіх дыпламатычных місій, акрэдытаваных у Беларусі. Намеснік міністра замежных спраў Алег Краўчанка заўважыў, што вершы Янкі Купалы адлюстроўваюць не толькі беларускую гісторыю, але і сутнасць саміх беларусаў. Ён распачаў вечар вершам «Не загаснуць зоркі ў небе».

У гонар свята замежныя госці прачыталі вершы нашага Песняра і па-беларуску, і на сваіх родных мовах: спадчына Янкі Купалы, як і кожнага выбітнага творцы, належыць не толькі беларусам, але і ўсім грамадзянам свету. Дарэчы, сам Янка Купала таксама займаўся перакладамі на беларускую знакамітых твораў замежных аўтараў. Дзякуючы дзейнасці паэта мы можам прачытаць на роднай мове «Слова аб палку Ігаравым» (у прозе і ў вершах), п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча «Ідылія» і «Залёты», вершы і паэмы Тараса Шаўчэнкі ды шмат іншага.

У межах мерапрыемства ў Міністэрстве замежных спраў Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы зладзіў выстаўку, прысвечаную жыццю і творчасці знакамітага паэта.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**1 сакавіка** — *на літаратурна-музычную вечарыну «Песня жыве ў душы: жанчыны-паэты — аб каханні і вясне» ў Віцебскую абласную бібліятэку імя У. І. Леніна (вул. Леніна, 8а). Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**25 лютага** — *на сустрэчу з пісьменніцамі Людмілай Кебіч і Ганнай Скаржынскай-Савіцкай, прысвечаную Міжнароднаму дню роднай мовы, у СШ № 36 г. Гродна з польскай мовай навучання. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

**27 лютага** — *на сустрэчу з дзіцячай пісьменніцай Ганнай Скаржынскай-Савіцкай, прысвечаную выхаду песеннага зборніка на словы гродзенскіх паэтаў, у Гродзенскі дзяржаўны каледж мастацтваў. Пачатак у 13.40.*

**28 лютага** — *на сустрэчу з лаўрэатам Нацыянальнай прэміі па літаратуры Ганнай Скаржынскай-Савіцкай у СШ № 35 г. Гродна імя М. А. Волкава. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**28 лютага** — *на чарговае пасяджэнне грамадскага дыскусійнага клуба «Словадром», прысвечанае Міжнароднаму дню роднай мовы, у Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Я. Карскага. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**2 сакавіка** — *на сустрэчу са старшынёй Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ Людмілай Кебіч у Гродзенскі дзяржаўны каледж мастацтваў. Пачатак у 12.40.*

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**28 лютага** — *на паэтычную гадзіну да 60-годдзя з дня нараджэння паэта Алеся Пісьмянкова «Белы бусел над Бесяддзю» ў Магілёўскую абласную бібліятэку імя У. І. Леніна. Пачатак а 15-й гадзіне.*

### Аб аб'яўленні конкурсу

**Установа адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі» аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад (да 5 гадоў) прафесарска-выкладчыцкага складу з далейшым заключэннем кантракта ў выпадку выбрання на тэрмін, вызначаны Наймальнікам:**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | кафедра фізічнага выхавання | — загадчык кафедры (1,0 шт. адз.) |
| 2 | кафедра медных духавых і ўдарных інструментаў | — загадчык кафедры (1,0 шт. адз.)<br>— дацэнт (1,0 шт. адз.) |
| 3 | кафедра камернага ансамбля | — дацэнт (1,0 шт. адз.) |
| 4 | кафедра кампазіцыі | — дацэнт (1,0 шт. адз.) |
| 5 | кафедра тэорыі музыкі | — прафесар (1,0 шт. адз.) |
| 6 | кафедра спеваў | — дацэнт (1,0 шт. адз.) |
| 7 | кафедра спецыяльнага фартэпіяна | — дацэнт (1,0 шт. адз.) |

# Вежападобны шэдэўр

## На ўзровень ЮНЕСКА: рыхтуецца дасье ўнікальнага помніка полацкай архітэктурнай школы



Спаса-Праабражэнская царква як частка ансамбля Свята-Ефрасіннеўскага жаночага манастыра ў Полацку.

Беларусь з'яўляецца членам ЮНЕСКА з 1954 г. На працягу такога доўгага перыяду наша краіна не толькі паспяхова рэалізуе супрацоўніцтва з уплывовай міжнароднай арганізацыяй, але і актыўна ўдзельнічае ў шматлікіх праектах і праграмах у сферы адукацыі, навукі, інфармацыі, камунікацый і, безумоўна, культуры. У кастрычніку 1988 г. Беларусь далучылася да Канвенцыі па ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны, прынятай ЮНЕСКА ў 1972 годзе. Асноватворны прынцып Канвенцыі заключаецца ў тым, што пэўныя каштоўнасці культурнай і прыроднай спадчыны ўяўляюць выключны інтарэс не толькі для асобных нацый і народнасцей, але і для чалавецтва ў цэлым, а значыць, валодаюць так званай выбітнай універсальнай каштоўнасцю. Такія аб'екты ўключаюцца ў Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЕСКА, і справа іх захавання становіцца абавязкам усёй міжнароднай супольнасці.

Сёння чатыры аб'екты, якія знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, уключаны ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Першым з іх у 1992 г. стаў Нацыянальны парк «Белавежская пушча», другім, у 2000 г., — замкавы комплекс «Мір». Яшчэ два аб'екты Беларусі папоўнілі спіс у 2005 г.: гэта «Архітэктурна-культурны комплекс рэзідэнцыі Радзівілаў у Нясвіжы» і пункты геадэзічнай Дугі Струвэ.

У 2004 г. у лік аб'ектаў Рэспублікі Беларусь, прапанаваных Міністэрствам культуры і Нацыянальнай камісіяй па справах ЮНЕСКА для ўключэння ў Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны, увайшлі ўнікальныя помнікі старажытнага Полацка — Сафійскі сабор XI стагоддзя і Спаса-Праабражэнская царква Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра XII стагоддзя. Непарыўная гістарычная сувязь паміж аб'ектамі, абумоўленая жыццём і дзейнасцю прападобнай Еўфрасінні, стала асновай для канцэпцыі комплекснай намінацыі помнікаў пад агульнай назвай «Матэрыяльнае ўвасабленне духоўнай спадчыны Святой Еўфрасінні Полацкай».

У 2008 годзе, у адпаведнасці з патрабаваннямі Канвенцыі па ўключэнні аб'ектаў у Спіс сусветнай спадчыны, на базе Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка спецыяльна сфарміраванай рабочай групай быў падрыхтаваны праект Дасье намінацыі комплексу двух полацкіх аб'ектаў. Па выніках папярэдняга разгляду дасье міжнародныя эксперты рэкамендавалі часова адклікаць яго для наступнай дапрацоўкі з захаваннем права паўторнай падачы намінацыі на разгляд Камітэта сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

Маштабныя рэстаўрацыйныя і навукова-даследчыя работы, праведзеныя ў Спаса-Праабражэнскім храме Еўфрасіннеўскага манастыра ў апошнія гады, дазволілі больш поўна раскрыць сапраўды ўнікальныя рысы архітэктуры помніка і старажытнай фрэскавай дэкарацыі яго інтэр'ераў. Спаскі храм паўстаў самадастатковым аб'ектам, які адпавядае міжнародным крытэрыям выбітнай універсальнай каштоўнасці. У сувязі з гэтым наспела неабходнасць перагляду канцэпцыі ўключэння помнікаў Полацка ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

Падчас сумеснага разгляду гэтага пытання прадстаўнікі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, Дзяржаўнага Эрмітажа Санкт-Пецярбурга прынялі рашэнне на карысць самастойнай намінацыі Спаса-Праабражэнскага храма XII стагоддзя.

З 2015 г. на базе Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка сумесна з навуковымі супрацоўнікамі сектара архітэктурнай археалогіі Дзяржаўнага Эрмітажа А. М. Іаанісянам, П. Л. Зыкавым і Я. Н. Торшыным, пры актыўнай дапамозе і садзейнічанні прадстаўнікоў Спаса-Еўфрасіннеўскага стаўрапігійнага манастыра, айчынных мастакоў-рэстаўратараў і спецыялістаў міжабласнога навукова-рэстаўрацыйнага мастацкага ўпраўлення г. Масквы ажыццяўляецца распрацоўка новага праекта дасье пад працоўнай назвай «Спаса-Праабражэнскі храм XII ст. Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку».

У выніку сучасных архітэктурна-археалагічных і мастацтвазнаўчых даследаванняў Спаскі храм паўстае як аўтэнтычны і добра захаваны помнік самастойнай полацкай архітэктурнай школы XII стагоддзя, інтэр'еры якога дэкарыраваны найкаштоўнейшымі фрэскавымі роспісамі.

На думку даследчыкаў, Спаса-Праабражэнскі храм Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку адпавядае патрабаванням чатырох з шасці магчымых крытэрыяў уключэння аб'ектаў культурнай спадчыны ў Спіс



Еўхарыстыя. Фрагмент роспісу алтарнай часткі Спаса-Праабражэнскай царквы (XII ст.).

сусветнай спадчыны ЮНЕСКА, а менавіта: 1) з'яўляецца шэдэўрам творчага генія чалавека; 2) адлюстроўвае ўздзеянне, якое аказвае змена агульначалавечых каштоўнасцей на развіццё архітэктуры або тэхналогіі манументальнага мастацтва, горадабудаўніцтва або планавання ландшафтаў; 3) з'яўляецца ўнікальным (выключным) сведчаннем культурнай традыцыі; 4) з'яўляецца выбітным узорам тыпу архітэктурнага будынка, які ілюструе важны этап у гісторыі чалавецтва.

Выбітная ўніверсальная каштоўнасць аб'екта ў тым, што Спаса-Праабражэнская царква Еўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку — самы ранні ва Усходняй Еўропе і ўнікальна захаваны да нашых дзён узор так званага вежападобнага храма. Такі архітэктурны тып будынкаў сфарміраваўся ў Полацку на глебе творчай перапрацоўкі традыцый візантыйскай архітэктуры і затым, у канцы XII — пачатку XIII ст., распаўсюдзіўся практычна па ўсёй Русі, істотна паўплываўшы на каменнае будаўніцтва ў Смаленску (храм Архангела Міхаіла), Ноўгарадзе (царква Параскевы Пятніцы, царква Пятра і Паўла на Сінічай гары (аб'ект сусветнай спадчыны ЮНЕСКА)), Чарнігаве (царква Параскевы Пятніцы), Гродне ды іншых гарадах. Пазней, у XIV — XV стагоддзях, такі тып храма стаў асноўным у архітэктуры старажытнарускіх зямель.

Пры параўнанні з іншымі храмамі вежападобнага тыпу відавочна, што Спаская царква Еўфрасіннеўскага манастыра ўвасабляе працэс пошукаў новых формаў у старажытнарускай архітэктуры, што нашмат апярэджвала свой час. Калі вежападобная кампазіцыя атрымлівае шырокае распаўсюджанне праз больш чым паўстагоддзя пасля яе з'яўлення, то пафрантонныя перакрыцці завяршэнняў, існаванне якіх у Спаскай царкве ў XII ст. было зафіксавана падчас найноўшых даследаванняў 2015 — 2016 гадоў, з'яўляюцца ў старажытнарускім дойлідстве толькі ў XV стагоддзі і атрымліваюць асабліва шырокае распаўсюджанне ў архітэктуры Ноўгарада і Пскова.

Унікальнай таксама з'яўляецца і ступень захаванасці аўтэнтычных канструкцый і дэталей будынка. Асабліва важна, што многія з элементаў храма, якія захаваліся, даюць магчымасць нібыта патрапіць у «творчую лабараторыю» старажытных майстроў, прасачыць іх пошукі і змены першапачатковых задум у працэсе будаўніцтва.

Не мае аналагаў іканаграфічная праграма роспісу Спаскага храма, створаная пры ўдзеле самой прападобнай Еўфрасінні Полацкай. Мастацкія асаблівасці фрэсак, якія ўяўляюць сабой адзін з нешматлікіх, што дайшоў да нашага часу, узораў стылю Комнінаўскага жывапісу XII стагоддзя ў такой унікальнай захаванасці, дэманструюць выключную значнасць помніка не толькі для развіцця мастацтва на землях Беларусі і Старажытнай Русі, але і ва ўсім арэале распаўсюджання візантыйскага мастацтва.

Акрамя таго, рэдкая для манументальнага жывапісу XII стагоддзя ступень захаванасці старажытных роспісаў Спаса-Праабражэнскай царквы ставіць яе побач з помнікамі гэтага часу, якія захаваліся на Балканах (царква Панцеляймона ў Нерэзі, Баянская царква (аб'ект сусветнай спадчыны ЮНЕСКА), у шэраг найбольш выбітных помнікаў сярэднявечнага мастацтва візантыйскага кола.

Вялікае значэнне мае і духоўная роля Спаса-Праабражэнскага храма, звязанага са спадчынай вялікай асветніцы Еўфрасінні Полацкай, першай усходнеславянскай жанчыны, кананізаванай праваслаўнай царквой, і адзінай святой, якая прызнаецца ўсімі хрысціянскімі канфесіямі. Атачыўшы сябе выдатнымі майстрамі (дойлід Іаан, ювелір Лазар Богша), Еўфрасіння стала першай жанчынай на беларускіх землях, якая заснавала манастыр, ініцыіравала ўзвядзенне ўнікальнага па архітэктуры храма, стварыла для яго асаблівую Іканаграфічную праграму роспісу і найкаштоўнейшы крыж-рэлікварый.

Сёння навукова-даследчыя і рэстаўрацыйныя работы ў Спаскім храме Еўфрасіннеўскага манастыра не спыняюцца. Старажытны помнік раскрывае перад навукоўцамі ўсё новыя ўнікальныя рысы, і практычна кожны даследчы крок суправаджаецца адкрыццямі, якія пацвярджаюць і дапаўняюць выдатную ўніверсальную каштоўнасць аб'екта.

Так, архітэктурна-археалагічныя даследаванні, праведзеныя ў 2015 годзе, выявілі, што па ўсёй даўжыні паўночнага, паўднёвага і заходняга фасадаў да Спаскага храма прымыкалі галерэі, збудаваныя практычна адначасова з асноўным аб'ёмам будынка, але не захаваліся да нашых дзён. Гэта адкрыццё дазваляе ўнесці істотныя карэктывы ў традыцыйнае ўяўленне пра архітэктуру помніка. Праведзены ў 2015 — 2016 гадах дэндрахраналагічны аналіз фрагментаў старажытных драўляных канструкцый царквы Спаса дазволіў удакладніць датаванні яе ўзвядзення — у межах 1123 — 1137 гадоў, што значна раней за распаўсюджаную гістарычнай навуцы дату (каля 1161 года).

Акрамя таго, падчас работ па раскрыцці старажытнага сценапісу Спаса-Праабражэнскага храма ад пазнейшых алейных напластаванняў XIX стагоддзя мастакі-рэстаўратары міжабласнога навукова-рэстаўрацыйнага мастацкага ўпраўлення Масквы распрацавалі і паспяхова выкарысталі спосаб беражлівага адслаення позняга маляванага пласта з пераносам яго на новую пастаянную аснову. У выніку найкаштоўнейшыя фрэскі XII стагоддзя раскрытыя практычна ў поўным аб'ёме, а зняты са сцяны храма жывапіс XIX стагоддзя стаў самастойным рухомым творам мастацтва, які па сваіх характарыстыках аналагічны алейнай карціне на палатне. Сёння ў Мастацкай галерэі Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка экспануецца музеефікаваны комплекс насценнага жывапісу XII — XIX стагоддзяў Спаса-Праабражэнскага храма Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра, дзе прадстаўлены фрагменты кампазіцый «Тайная вячэра», «Архангел», «Успенне Прасвятой Багародзіцы» і многія іншыя сюжэты. Вынікі даследчых, рэстаўрацыйных работ і маніторынгу стану храма знаходзяць адлюстраванне ў адпаведных раздзелах праекта Дасье намінацыі, праца над якім сёння працягваецца.

У 2016 годзе Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Галоўным упраўленнем ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама ажыццёўлена фінансаванне навуковай распрацоўкі некалькіх важных пазіцый дасье, а таксама стварэнне фота-, аўдыявізуальных і картаграфічных дадаткаў да яго. Завяршальным этапам павінен стаць пераклад падрыхтаванага матэрыялу дасье на англійскую мову, што адпавядала б самым высокім міжнародным стандартам ЮНЕСКА, каб імя старажытнай полацкай святыні годна прагучала ў ліку помнікаў, якія рыхтуюцца папоўніць сусветную культурную скарбніцу.

**Юлія АЎЧЫННІКАВА,**
**загадчык навукова-рэстаўрацыйнага аддзела Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка**

**Уладзімір ПРАКАПЦОЎ, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, старшыня Канфедэрацыі творчых саюзаў Беларусі:**

***— «Літаратура і мастацтва» — выданне, з якога для многіх пачалося далучэнне да тэорыі, гісторыі і практыкі сучаснага мастацтва. Калектыў газеты ўмела злучае глыбіню навуковай распрацоўкі фундаментальных культуралагічных праблем, вастрыню і надзённасць асвятлення сучаснага беларускага мастацтва. «ЛіМ» аб'ядноўвае творчую інтэлігенцыю краіны, працягвае і развівае лепшыя традыцыі пісьменства; прыцягвае на свае старонкі вядомых навукоўцаў, перспектыўных маладых даследчыкаў, стварае трыбуну для абмеркавання праблем самага шырокага мастацтвазнаўчага кола, знаёміць чытачоў з навінамі культурнага жыцця Беларусі.***

***Шчыры дзякуй «ЛіМу» за тое, што ў нашых нялёгкіх умовах выданне папулярызуе самы дарагі здабытак народа — яго гісторыю і культуру!***

# НАЦЫЯНАЛЬНАЕ І АСАБІСТАЕ:

## 64 старонкі для класіка ў серыі кніг «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»

**Беларусаў часта дакараюць за тое, што яны не ведаюць сваёй гісторыі, мовы, культуры, мастацтва... Часам мы зманліва суцяшаем сябе: усё пералічанае вышэй — толькі для абраных. Аднак праўда ў тым, што пакуль зацікаўленасць уласнай культурай не перастане быць выключна заняткам вузкага кола інтэлектуалаў, мары і спадзяванні беларускіх асветнікаў не спраўдзяцца. Усё больш актуальным становіцца меркаванне, што сучасным дзеячам беларускай культурнай прасторы надышоў час аддаць перавагу папулярызацыі дзейнасці выдатных папярэднікаў.**

### КУЛЬТУРА АБ'ЯДНОЎВАЕ

Менавіта з гэтай мэтай у 2012 годзе Інстытутам беларускай гісторыі і культуры сумесна з мінскім выдавецтвам «Харвест» была заснавана серыя папулярных выданняў «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры». Заснавальнік, рэдактар і каардынатар серыі — навуковы сакратар Інстытута беларускай гісторыі і культуры прафесар Анатоль Тарас. На сёння выйшла ўжо 65 кніг. А. Тарас дапускае, што ў выніку кніг можа быць і болей, а лічба «100» застанецца ў назве серыі як умоўная.

Кнігі выдадзены маленькім, «кішэнным» фарматам, кожная мае ўсяго 64 старонкі і разлічана на шараговага чытача. Такія выданні будуць карысныя настаўнікам і школьнікам, студэнтам, проста зацікаўленым асобам. Каштуюць яны нядорага і сапраўды карыстаюцца попытам.

Анатоль Тарас падкрэслівае, што ў выбары герояў кніг кіруецца дакладна вызначанымі прынцыпамі. Па-першае, асоба, якой прысвячаецца кніга, павінна была вызначыцца менавіта ў культурнай сферы, а не грамадска-палітычнай. «*Палітыка раз'ядноўвае людзей, а культура — аб'ядноўвае*», — падкрэслівае А. Тарас. Менавіта таму акцэнт робіцца на літаратурных, мастацкіх, мовазнаўчых і краязнаўчых здабытках, нават калі дзеяч вялікую частку жыцця прысвяціў удзелу ў палітычным жыцці краіны. Па-другое, імёны і біяграфіі ўсіх герояў можна знайсці ў «Беларускай энцыклапедыі». Ну, а трэці прынцып... суб'ектыўны — асабістыя сімпатыі заснавальніка серыі.

### САПРАЎДНАЕ АБЛІЧЧА КЛАСІКАЎ

На сёння выйшла ўжо 65 кніг, з іх 20 — пра літаратараў: Уладзімір Караткевіч, Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Мрый, Кандрат Крапіва, Сяргей Грахоўскі, Уладзімір Дубоўка, Міхась Стральцоў... Звернем увагу на некаторыя нядаўнія, выдадзеныя ў 2016 годзе, кнігі з названай серыі.

Анатоль Тарас падкрэслівае, што адна з самых вялікіх складанасцей палягала ў пошуку аўтараў. Беларускія літаратуразнаўцы гатовы ствараць аб'ёмныя манаграфіі, а знайсці дасведчанага чалавека, які б змог на 64 старонках распавесці самае галоўнае пра нашых класікаў, аказалася задачай нерэальнай... Менавіта таму ў стварэнні серыі актыўны ўдзел бяруць сваякі, сябры і калегі славутых землякоў.

Напрыклад, кнігу пра Янку Купалу зрабіў сам А. Тарас. У прадмове ён патлумачыў, што не збіраецца паўтараць навуковых выкладак са шматлікіх манаграфій і артыкулаў ці перапісваць з энцыклапедычных даведнікаў біяграфію, але сканцэнтруе ўвагу на тым, што з розных прычын застаецца па-за ўвагай шараговага чытача, не абазнанага ў філалагічных штудыях: «*згадаць тых людзей, дзякуючы якім сціплы юнак з літаратурнымі здольнасцямі вырас у вялікага паэта...*»; «*пазнаёміць чытачоў... з тымі купалаўскімі творамі, што на працягу дзесяцігоддзяў забараняліся савецкай цэнзурай*»; «*распавесці пра трагічнае завяршэнне творчага і жыццёвага шляху паэта. Пра тое, як сутыкненне чалавека тонкай душы з трактарам сацыялізму сталінскага ўзору, алегарычна кажучы, загасіла паходню, якой ён асвятляў свайму народу шлях у будучыню. А затым трактар яго раздушыў*». Выказванні Анатоля Тараса для многіх літаратуразнаўцаў, хутчэй за ўсё, падаліся абуральнымі і выклікалі нязгоду. Шмат у іх безапеляцыйнага, правакацыйнага, нечаканага... Напрыклад, пра тое, што Купала не нарадзіўся геніем — такім яго зрабіла асяроддзе адукаваных, таленавітых, высокаінтэлігентных людзей, маральная і матэрыяльная падтрымка якіх паспрыялі яго творчаму росту.

У кнізе багата цытат з вершаў, якія з розных прычын забараняліся савецкай цэнзурай. Так, усе яны надрукаваныя ў апошнім Зборы твораў Янкі Купалы. Але мэтазгоднасць такога шырокага цытавання, на думку аўтара кнігі, выклікана тым, што для звычайнага чытача яны так і засталіся невядомымі, а ў выніку сучасныя беларусы не ведаюць сапраўднага Янку Купалу. Школьная праграма тут не вельмі добры дарадчык.




Усе мы памятаем, які рэзананс у асяродку творчай інтэлігенцыі выклікала эсэ Альгерда Бахарэвіча пра Янку Купалу, змешчанае ў яго кнізе «Гамбургскі рахунак Бахарэвіча», дзе ён сцвярджаў, што к 1930 году прарок беларускага адраджэння Янка Купалаператварыўся ў Каяна Лупаку. А. Тарас бачыць у гэтым вызначэнні сэнс — не абразу класіку, але яго сапраўдную трагедыю: яна не ў заўчаснай фізічнай смерці, але смерці творчай і духоўнай, якая адбылася нашмат раней.

Кніга атрымалася яркай, цікавай, хаця многія выказванні і меркаванні могуць стаць тэмай дыскусіі. Увогуле, бадай усе кнігі серыі можна ўмоўна падзяліць на дзве катэгорыі: адны больш выконваюць выключна азнаямляльна-асветную функцыю, іншыя ўтрымліваюць спрэчныя меркаванні, каштоўныя згадкі, успаміны, правакацыйныя высновы...

Да першых, напрыклад, належаць кнігі, створаныя Алесем Марціновічам: «Уладзімір Дубоўка. Выдатны паэт дрэнных часоў», «Змітрок Бядуля. "Будзь сам сабою, беларус..."», «Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Патрыярх беларускага Адраджэння», «Аляксандр Ельскі. Першы беларускі энцыклапедыст» ды інш. У гэтых кнігах паслядоўна выкладаецца біяграфія героя, шырока цытуюцца навуковыя манаграфіі... і ўслед за гэтым паўтараюцца пэўныя недахопы даследчыцкіх прац савецкіх часоў. Выклікае пытанні асвятленне кнігавыдавецкай дзейнасці Вацлава Іваноўскага ў кнізе пра Б. Эпімаха-Шыпілу.

Зразумела, што ў 1950 — 1980-х гадах даследчыкі не маглі нават згадваць у сваіх працах імя аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца!», Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні Вацлава Іваноўскага, бо яго жыццё ў перыяд 1942 — 1943 гадоў «перакрэслівала» ўсю плённую дзейнасць на карысць беларускай выдавецкай справы ў пачатку ХХ стагоддзя. І Алесь Марціновіч адзначае гэта, але ўслед піша: «*абсурдным з'яўляецца сцвярджэнне, што Іваноўскага спецыяльна замоўчвалі. І гэта ў 1920-я гады! Што пасля 1945 — зразумела... А тады... Не трэба займацца нашым беларускім самаедствам*». Аднак папраўдзе тут няма ані абсурду, ані самаедства. У В. Іваноўскага быў не адзін грэх перад савецкай уладай: у 1918 годзе ён быў абраны ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі міністрам асветы, а ў 1919 годзе арыштаваны савецкімі ўладамі і сасланы ў Смаленскую турму, у якой правёў некалькі месяцаў. Ужо толькі гэтага было больш чым дастаткова, каб «замоўчваць» яго ў 1920-я гады...

Тут хацелася зрабіць заўвагу адносна патэнцыяльнай чытацкай аўдыторыі, на якую разлічана серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры», а менавіта — шараговага чытача. З аднаго боку, ствараючы тэксты не для спецыялістаў, аўтар можа пачувацца больш вольна — дазваляць сабе адвольныя інтэрпрэтацыі, узгодненыя не з навуковай канцэпцыяй, а толькі з асабістым досведам. Аднак з другога — на стваральніку папулярнай кнігі, якую будуць чытаць школьнікі і студэнты, вялікая адказнасць за праўдзівасць інфармацыі, бо неабазнаны чытач успрымае яе як ісціну. А на старонках кніг серыі ўсё ж сустракаюцца факталагічныя памылкі і моўнастылёвыя недакладнасці, што яўна не на карысць выдатнай задуме.

Тое ж самае хацелася б заўважыць і адносна кнігі пра Змітрака Бядулю, у якой зноў паўтараюцца распаўсюджаныя ў беларускім літаратуразнаўстве савецкага перыяду міфы. Магчыма, варта было б звярнуцца да ўспамінаў і публікацый сына Змітрака Бядулі Яфіма Самуілавіча Плаўніка, якія змешчаны ў перыядычных выданнях і зборніках навуковых канферэнцый. Напрыклад, апошнія хвіліны Змітрака Бядулі вельмі падрабязна і дакладна апісаныя ва ўспамінах сына. Паводле слоў Яфіма Самуілавіча, яны значна больш дакладныя, чым прыведзеныя ў кнізе згадкі Віталя Вольскага.

Тым не менш такія кнігі — з паслядоўна выкладзенай біяграфіяй і кароткім аналізам асноўных твораў, — безумоўна, будуць карысныя менавіта як дапаможнікі ў навучальным працэсе. Хаця, вядома, закранае Алесь Марціновіч і больш складаныя праблемы: пра неабходнасць перавыдання спадчыны, ушанаванне памяці выдатных пісьменнікаў. Імпануе, што аўтар прысвяціў шмат старонак разгляду твораў Уладзіміра Дубоўкі і Змітрака Бядулі для дзяцей. Гэта не заўсёды трапляе ў поле зроку даследчыкаў, а звычайнаму чытачу дык і ўвогуле невядома.

### ЗГАДКІ, АДЦЕННІ, ДЭТАЛІ...

Адметнымі з'яўляюцца кнігі серыі, створаныя рэжысёрам і сцэнарыстам Уладзімірам Арловым. Найперш тым, што аўтар усё-ткі чалавек «ад свету кіно», а не «ад свету літаратуры», а гэта дазволіла яму ўбачыць творчасць Уладзіміра Караткевіча, Андрэя Мрыя, Кандрата Крапівы, Сяргея Грахоўскага пазалітаратуразнаўчым кантэкстам: іншыя адценні, іншыя дэталі....

Бадай, самай лірычнай атрымалася кніга «Уладзімір Караткевіч. Прарок беларушчыны». Верагодна, таму, што У. Арлоў быў добра знаёмы з легендарным беларускім пісьменнікам, бачыў яго ў жыцці, у стасунках з іншымі людзьмі. У кнізе ёсць і камічныя, і трагічныя моманты. Але самае галоўнае — дэталі, якія нельга вычытаць ні ў якіх навуковых і навукова-папулярных працах, тое, чаму сведкам быў сам аўтар і што належыць цяпер толькі яго памяці. Крыху іначай напісаў У. Арлоў пра Андрэя Мрыя, паводле асноўных твораў якога зняў у 1989 годзе двухсерыйны фільм. У цэнтры ўвагі — няскончаны раман «Запіскі Самсона Самасуя» і трагічны лёс сям'і Шашалевічаў.

Праблемы развіцця беларускага літаратурнага руху і складаных, супярэчлівых стасункаў у пісьменніцкім асяроддзі — у кнізе Анатоля Астапенкі «Міхась Стральцоў. Гросмайстар беларускага слова». Аўтар удала спалучыў паслядоўны выклад біяграфічных дадзеных, апісанне этапаў творчай эвалюцыі і шчымлівыя згадкі асабістых сустрэч і размоў. А. Астапенка прапанаваў паглядзець на творчасць пісьменніка ў кантэксце яго супярэчлівых узаемаадносін з паплечнікамі і сістэмай грамадскага ладу ўвогуле. Менавіта ў гэтым — у немагчымасці ўпісацца ў сістэму, прыняць яе правілы і формы існавання — бачыць аўтар найвялікшую бяду М. Стральцова, што ўрэшце знявечыла і яго самога, і яго талент.

Кнігі серыі вельмі розныя: паводле стылю, адбору і падачы матэрыялу, асабістага стаўлення і ўспрымання аўтара. Што ж — тым цікавей іх чытаць і чакаць з'яўлення новых. Аб'ядноўвае аўтараў гэтых 64-старонкавых кніжак, акрамя агульнай асветніцкай канцэпцыі, імкненне паказаць асобу ў кантэксце ўсёй беларускай культуры — ва ўзаемасувязі пакаленняў і традыцый. Варта адзначыць, што гэта ўнікальны выдавецкі праект, патрэба ў з'яўленні якога ўжо даўно наспела і які ўжо знайшоў сваю чытацкую аўдыторыю.

**Жанна КАПУСТА**

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, доктар філалагічных навук, прафесар, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь:**

***— Газета «Літаратура і мастацтва» выклікае багата ўспамінаў, і большасць з іх цёплыя, прыемныя, нават радасныя. Дзякуючы «ЛіМу» адбылося знаёмства з многімі пісьменнікамі, паэтамі, мастакамі і іншымі творцамі. Сёння не ўяўляю, як можна жыць без гэтай газеты не толькі тым, хто супрацоўнічае з выданнем, але і наогул усёй беларускай грамадскасці. Жадаю, каб на старонках газеты было больш новых імёнаў, цікавых дыскусій, каб былі шырока прадстаўлены розныя літаратурныя і публіцыстычныя жанры. Творчых поспехаў усім супрацоўнікам і чытачам «ЛіМа»!***

# Без ружовых фарбаў

## Не ўсе гатовыя да *такой* праўды ў творах жанчын-пісьменніц



*Алена Брава.*

Пра арыгінальную аўтарскую пазіцыю Алены Брава, прыкметнае месца гэтай пісьменніцы ў сучаснай літаратуры кажуць і крытыкі, і чытачы. Праўда, разам з кампліментамі гучаць думкі, што многія творы пакідаюць цяжкаватыя ўражанні... У гэтых выпадках Алена Брава не губляецца і падрыхтавана адказвае на пытанні чытачоў пра мастацкія задачы і «святло ў канцы тунэля».

Творы пісьменніцы друкаваліся ў перакладзе на рускую, англійскую, нямецкую мовы, а першая кніга — «Камендацкі час для ластавак» — нядаўна зацікавіла польскіх кнігавыдаўцоў. У беларускім літаратурным асяроддзі проза Алены Брава выклікае часам палярныя ацэнкі — і тым больш цікава даведацца, як аўтарка тлумачыць сваю творчую канцэпцыю, якой бачыць ролю мастацкай літаратуры ў сучасным грамадстве.

Чарговая творчая сустрэча з Аленай Брава адбылася ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы імя М. Астроўскага — у межах кампаніі «Пяцісотгоднасць». У сваім выступленні пісьменніца адказала на пытанні, якія маглі б адрасаваць ёй многія чытачы.

### АБМІНУЦЬ ПАСТКІ

«...Адзін беларускі пісьменнік-мужчына рабіў са мной інтэрв'ю і спрабаваў давесці, што проза — гэта цяжкі мужчынскі занятак. У нашым асяродку традыцыйна лічылася: проза — мужчынская справа, і з гэтым я зусім не згодная. А з тым, што гэта занятак цяжкі, згодная. Бо перанесці, перацягнуць з жыцця ў тэкст можна толькі тое, што прапушчана праз сэрца. Перажыванне першаснае, потым ідзе фіксацыя словам, таму пішу пра тое, што хвалюе, што хвалюе жанчын — не толькі сяброўак і знаёмых, але і маіх чытачак. Пішу пра тое, што баліць. Не арыентуюся ў творчасці ні на якія канцэпцыі, ідэалогіі, ні на якія ідэі, што авалодваюць масамі. На маю думку, пісьменнік — не святар, не псіхолаг-кансультант, не ідэолаг, ён не дае гатовых рэцэптаў вырашэння праблем, выратавання душы. Ён пракладае свой шлях у творчасці і ў працэсе хады вядзе чытача.

Я добра ведаю шляхі, па якіх ідзе мая сучасніца — беларуская жанчына, добра ведаю праблемы, з якімі яна сутыкаецца, пасткі, якія могуць яе напаткаць, таму і пішу пра гэта. Гераіні маіх кніг — пачынаючы ад «Камендацкага часу для ластавак» да апошняга зборніка прозы «Рай даўно перанаселены» — жанчыны, што носяць у сабе падсвядомы супратыў тым усталяваным у грамадстве нормам, якія прадпісваюцца, а часам і навязваюцца. Стандартызацыя нішчыць індывідуальнасць, гэта тычыцца і мужчын, і жанчын. Усе дзеці вельмі таленавітыя: добра малююць і танцуюць, пішуць вершы — і куды гэта потым знікае? Адбываецца свайго роду ўніфікацыя, стандартызацыя — пры гэтым жанчыне нашмат складаней, чым мужчыне, захаваць сябе як асобу, захаваць сваё «я», творчае «я», індывідуальнасць.

У грамадстве заўсёды шмат ідэй наконт таго, якой жанчына быць павінна і якой — не. Грамадства традыцыйна гатова прызнаць за ёю досыць абмежаванае кола сацыяльных роляў: маці, бабуля, каляжанка. А вось як быць жанчынетворцы, жанчыне, якая выбірае шлях самаразвіцця, самаўдасканалення? Тэма творчасці досыць часта з'яўляецца ў маіх кнігах».

### ТВОРЧАСЦЬ ЯК ЗДРАДА?

«...Сёння ў беларускую літаратуру прыйшло шмат жанчын — цікавых таленавітых пісьменніц. Яны шукаюць сродкі самавыяўлення, набываюць свабоду праз слова (і слова гэта беларускае), пазбаўляюцца страхаў, комплексаў... Хто, як не жанчына-пісьменніца, дапаможа сваім сёстрам-жанчынам зразумець тую тэра інкогніта — невядомы куток падсвядомасці, дзе хаваюцца комплексы, пачвары, страхі?.. Цяпер пісьменніцы часам кажуць тое, пра што раней казаць у беларускай літаратуры было не прынята, — і робяць гэта, бо добра ведаюць праблемы сваіх сучасніц.

Але жанчыне нашмат цяжэй, чым мужчыну, займацца літаратурай, бо на ёй — хатні побыт, выхаванне дзяцей, — у нашай краіне лічыцца, што гэта яе найпершыя задачы. Жанчыне даводзіцца раздзірацца паміж божым і жаночым, паміж пакліканнем і любоўю да дзіцятка — адсюль унутраны канфлікт, напружанне, адчуванне, што яна не можа рэалізаваць сябе на 100% ні як маці, ні як творца. Гэта досыць складаная сітуацыя — яшчэ і таму, што жанчына далёка не заўсёды можа абаперціся на падтрымку і разуменне блізкіх. Творчасць можа адчувацца як здрада сям'і, блізкім. Адна наша паэтэса, маці двух дзетак, кажа: я адчуваю віну, калі пішу кожны верш, — віну перад сваімі дзецьмі, бо прысвяціла гэты час напісанню верша, а не дзецям. Вось як глыбока сядзяць у нас стэрэатыпы, што жанчына — найперш маці і гаспадыня, а творчасць і іншыя высокія сферы — гэта месца мужчыны. Так закладзена, і жанчыне даводзіцца змагацца з гэтымі стэрэатыпамі нават унутры самой сябе. Пра гэта я пішу, напрыклад, у апавяданні «Крупнік для музы»...

Можа скласціся ўражанне, што мае гераіні — пераважна жанчыны, якія ў чымсьці шукаюць сябе адрозную. Але традыцыйныя жаночыя сацыяльныя ролі ў маіх творах таксама ёсць. Мае гераіні — гэта маці, бабуля, дачка, гэта жанчыны рознага ўзросту і матэрыяльнага статусу, якія знаходзяцца ў розных жыццёвых сітуацыях. Галоўнае, што ва ўсіх творах стараюся дайсці да сутнасці і адказаць на пытанне: "Чаму так адбылося?"».

### НЕ КАЗКІ

«...У нашым грамадстве існуюць пэўныя стэрэатыпы наконт таго, якой павінна быць жаночая творчасць. Лічыцца, што твор, напісаны жанчынай, мусіць быць саладжавай ружовай казкай альбо нечым рамантычным, узнёслым, «пра каханне». Ад пісьменніцы не чакаюць сацыяльнага крытыцызму, аналізу праблем, з якімі сутыкаюцца жанчыны. Калі адносна маіх твораў заўважаюць: «фінал у вас змрочны, няма святла, ружовых фарбаў», я на гэта кажу, што казкі — не мой профіль. Хоць некаторыя мае творы і маюць аптымістычны фінал. Гэта аповесці «Дараванне», «Камендацкі час для ластавак», «Рай даўно перанаселены».

Мяркую, што сумленны пісьменнік — мужчына ён ці жанчына — перш за ўсё мусіць абуджаць грамадскую думку, разбіваць стэрэатыпы масавай свядомасці, якія перашкаджаюць жыць і адчуваць сябе свабодна, — як сказаў французскі пісьменнік Мішэль Уэльбек, «знайсці болевыя кропкі грамадства і ціснуць на гэтыя болевыя кропкі». На жаль, не ўсе беларускія чытачы і нават крытыкі, літаратары гатовыя да такой праўды ў творах жанчын-пісьменніц.

Рамантычная літаратура, масавая культура, дзе сцвярджаецца, што адзінае наканаванне жанчыны гэта «сапраўднае каханне», можа апынуцца пасткай. Пра гэта — раман «Менада і яе сатыры». Уражлівая, рамантычная дзяўчына марыць пра вялікае, жарснае каханне, і пошукі такіх стасункаў ператвараюцца ў шалёны бег за хімерай, фантазіяй, ілюзіяй, які ні да чаго добрага прывесці не мог...

Калі раман быў надрукаваны (у часопісе «Маладосць» у верасні 2008 года), мне тэлефанавалі жанчыны з усёй Беларусі. Выказвалі вялікі дзякуй, што напісала пра іх, пра жыццё ў праўніцы, пра іх праблемы. Чытачкі нават пазнавалі гераіню ў сваіх знаёмых: адна сказала: «Гэта мая каляжанка», другая сказала: «Гэта я самая, адкуль вы даведаліся пра мой досвед?» Адна жанчына сталага ўзросту сказала такія словы: «Вы, канешне, напісалі праўду, але мне не патрэбна такая праўда, я яе не хачу, не расказвайце больш пра гэта...» Яна вырашыла захаваць самападман і ісці з ім далей. Зразумела, чалавек сталага ўзросту не хоча змяняць свае погляды. Але я найбольш хацела б, каб мае кнігі чыталі дзяўчаты, маладыя жанчыны, каб яны пабачылі свет без ружовых акуляраў і потым ужо свядома рабілі свой выбар. Калі выйшла кніга «Рай даўно перанаселены», мая дачка яшчэ была студэнткай, і кніжка проста паляцела па дзяўчатках з яе ўніверсітэта. Многія казалі: «Добра, што мы гэта прачыталі, мы будзем ведаць, што і такое ў жыцці бывае, хаця гэта неабавязкова здарыцца менавіта з намі».

Самападман рана ці позна заканчваецца, жыццё разбівае фантазію, а разам з ёй — і сэрца чалавека. Гэта, можа, не так і дрэнна, бо сэрца павінна быць разбітым, як казала Марына Цвятаева, але жыццё не такое і доўгае... Калі мы будзем губляць яго, то не паспеем зрабіць нешта добрае для сваіх блізкіх. Ілюзіі, самападман, можа, і прыгожыя, але веданне праўды — адзіны шлях да сталення — як чалавека, так і грамадства».

**Запісала Алеся ЛАПІЦКАЯ**

**Таццяна СІВЕЦ, галоўны рэдактар «ЛіМа» ў 2011 — 2015 гадах:**

***— Студэнткай я з вялікай цікавасцю чытала «ЛіМ» (і нават друкавалася ў ім) — памятаю цудоўныя круглыя сталы і крытычныя агляды, вершы класікаў і зацемкі выбітных сучаснікаў. Памятаю і цэлы разварот, прысвечаны першай маёй кнізе, на старонках любімай газеты... Мне здавалася тады, што ў гэтым выданні працуюць незвычайныя людзі — натхнёныя творцы і адданыя руплівцы нашай літаратуры... А калі я сама пачала працаваць у «ЛіМе», пераканалася ў гэтым на сто адсоткаў! Таму кожнае пятніцы я гартаю старонкі выдання, якое назаўжды стала для мяне родным, радуюся сустрэчам з любімымі аўтарамі ды шчыра цешуся, натрапляючы на новыя імёны. Прывітанне, «ЛіМ»!***

*Надрукавана ў «Нёмане»*

# Пазыкі, спрэчкі, чэргі, мітынг

Чым запомніліся беларусам 1990-я гады? Чэргі ў крамах, забастоўкі рабочых, імклівае будаўніцтва катэджаў пад Мінскам, ад'езд яўрэяў у цёплы Ізраіль... У грамадстве адбываецца кардынальныя змены, і сярод усяго зноў адчувальнымі робяцца антысеміцкія настроі.

Спецыфічнае стаўленне да яўрэяў на ўласнай скуры спазнае галоўны герой аповесці Алега Ждана-Пушкіна («Нёман» № 1, 2017). Ілья Шахрай насамрэч не яўрэй, але мае «ўсходнюю знешнасць», таму сябры, выпадковыя знаёмцы і нават маладая жонка (а тым больш яе сваякі) часам здзіўляюць не вельмі прыемнымі пытаннямі і намёкамі. «Я адчуваў сябе ў складанай сітуацыі. Заявіць, што я не яўрэй, — але якая мне розніца? Пагадзіцца — нібыта самазванства. Але было цікава», — апісвае герой сваю рэакцыю ў момант, калі кампанія падпітых пасажыраў называе яго «жыдком».

Такія казусы здараюцца з Ільёй Шахраем неадноўчы, але пытанне міжнацыянальных адносін — далёка не галоўнае для маладога мужчыны, які мае прыгажуню жонку і чакае з'яўлення першынца. Тым больш што ў выніку масавых скарачэнняў ён губляе працу ў рэдакцыі, зарабляе на жыццё таксістам, пазычае грошы ў сяброў... А гэта самыя сапраўдныя прыгоды для сучаснага чалавека.

У творы Алега Ждана-Пушкіна шмат займальнага: жарты, байкі, анекдатычныя здарэнні, пікантныя эпізоды... Але галоўнае ў «Прыгодах чалавека, падобнага да яўрэя» — гэта ўспаміны пра эпоху, якая была часам выпрабаванняў і пераз, вялікай радасці і гарачых спрэчак. Пейзажныя замалёўкі вяртаюць на вуліцы Мінска пачатку 1990-х: людзі просяць міласціну ў пераходах, вецер носіць смецце, бо дворнікі — прадстаўнікі ці не самай патрэбнай у горадзе прафесіі — нібыта праваліліся скрозь зямлю. Для многіх беларусаў 1990-я гады — час неўладкаванасці і няпэўнасці, але Алег Ждан-Пушкін апісвае і трохсоттысячны мітынг на плошчы Леніна. «Цяпер ужо са смуткам згадваю той час: ці быў ён? Можа, падалося? Зусім ужо не падобны цяперашні дзень і людзі да тых, хто стаў на плошчы ў чаканні змен».

Аповесць падаецца крыху стракатай — апісанні шчаслівых вечароў з жонкай перапыняюцца занепакоенымі думкамі пра вяртанне пазыкі, напружаныя размовы з сябрамі на палітычныя тэмы саступаюць месца таксісцкім байкам. Чаму з жыцця Ільі Шахрая выхаплены менавіта гэтыя адрэзак часу? Наўрад ці людзі перасталі заўважаць яго падабенства да яўрэя — але «прыгоды» дакладна скончыліся са з'яўленнем у героя стабільнай працы. «Было такое адчуванне, што свет — з пакутамі і крэктам — пачаў паволі самаарганізоўвацца. Палітыкі, напэўна, думаюць, што гэта іхняя заслуга. Насамрэч нічыёй заслугі няма. Проста імкнёмся перамагчы беды, якія яны раз за разам на нас абрынаюць».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# Аскепкі мінулага ў люстэрку сучаснасці:

## літаратурныя рэстаўрацыі Марыі Роўда

**Кожнае пісьменніцкае пакаленне ў пэўным сэнсе стварае свой партрэт, і нават зварот да гістарычнай тэматыкі — таксама твар пакалення. З'яднаць гэтыя дзве лініі ў адной апавядальнай манеры — арыгінальнай у сучаснай беларускай літаратуры (прыгадваецца яшчэ хіба толькі сямейная сага Паўла Касцюкевіча «План Бабарозы») — напоўніцу атрымалася ў Марыі Роўда ў кнізе прозы «Клінічны выпадак, альбо Дарэмныя ўцёкі», выдадзенай у 2015 годзе ў выдавецтве «Кнігазбор».**

Гаворка вядзецца не пра паслядоўнае чаргаванне ў апавядзе двух часавых пластоў, як, прыкладам, у Людмілы Рублеўскай. Гістарычная і генетычная спадчына, гісторыю роду, сямейныя паданні і біяграфіі прадзедаў і прабабак як частка быцця сучаснага трыццаці- — саракагадовага інтэлігента. Уцёкі ад гісторыю свайго роду сапраўды дарэмныя, бо нават калі гэтую гісторыю мы не ведаем зусім ці ведаем недастаткова добра, яна ўсё адно прарасце ў нашым лёсе — праз светапогляд, манеру паводзінаў, выбар атачэння…

У кнізе тры аповесці і сямнаццаць апавяданняў. Вельмі шмат у іх — пра «клінічныя» выпадкі кахання. Цалкам гэтаму прысвечана аповесць «1896», якая распачынае кнігу і якая падаецца значна слабейшай за дзве наступныя. Творы размешчаныя ў храналагічным парадку, аднак гэта не было добрай ідэяй: пачаўшы знаёмства з пісьменніцай з аповесці «1896», да астатніх чытач можа і не дабрацца.

Занадта шматслоўная сентыментальная гісторыя кахання, любоўны «квадрат», у якім кожны з герояў знаходзіць ідэальную з пункту гледжання логікі і здаровага сэнсу пару, але ўрэшце перамагае няпростае нелагічнае, жарснае, несправядлівае каханне… Неарыгінальны настолькі, што ўжо можна нават назваць банальным, сюжэт. А галоўнае: так і застаецца незразумелым, чаму перамагло каханне і як героі пераадолелі тыя супярэчнасці, якія іх развялі. Пра гэта — ні слова. Канцоўка плакатная, як у рамантычнай камедыі: вяселле, дзеці і, вядома ж, былыя каханкі становяцца сябрамі і гуляюць на хрэсьбінах першынца галоўных герояў, якія ў свой час папросту выкарысталі іх як утульны часовы прыстанак.

Дзеянне ў аповесці «1896» адбываецца ў Лошыцкім парку, такім чынам уводзяцца ў кантэкст тыя самыя аскепачкі мінулага, шчодра параскіданыя па ўсёй кнізе. Аднак гісторыя тут яшчэ прысутнічае як фон, адасоблена. Нават прывід шляхцянкі-самагубцы, з якім вядзе задушэўныя размовы галоўная гераіня, яшчэ не частка біяграфіі.

Зусім па-іншаму — у другой аповесці «Чорная лінія». Тут шляхецкія прывіды — ужо не рамантычны фон, але рэальная сямейная гісторыя. Успаміны пра навучанне ў Віленскай беларускай гімназіі і пра яе выдатных настаўнікаў, якімі дзеліцца з галоўнай гераіняй другая дзедава жонка Ганна Раманаўна, — не тэма навуковага артыкула альбо гістарычна-літаратурных штудый, а толькі памяць пра перажытае. Так, праз герояў найстарэйшага пакалення пастаянна ў прозе Марыі Роўда даводзіцца думка, што беларушчына насамрэч не была вырваная з карэннем, што гістарычную праўду трэба не адкрываць, а толькі пачуць.

Праўда, даступна гэта не кожнаму — нават адукаванаму, выхаванаму і таленавітаму чалавеку ў гэты куфэрак спадчынных скарбаў не зазірнуць, калі ён дбайна не захоўваўся стагоддзямі памяці ва ўласнай сям'і. Нездарма аповесць мае прысвячэнне: «Тым, хто быў, і тым, хто мог быць». Тут — і сімвалічнае знітаванне пакаленняў, і трагічнае адчуванне перарваных традыцый, страчанай будучыні.

«1896» і «Чорная лінія» падаюцца своеасаблівымі занатоўкамі да трэцяй аповесці «Настаўнік заўжды вінаваты», дзе ўсе абазначаныя тэмы раскрыліся напоўніцу.

Галоўная гераіня Вера — выкладчыца ва ўніверсітэце, мама дваіх дзяцей, жонка, дачка і ўнучка. Яна жыве ў сучаснасці, але ўвесь час адчувае сваю… несучаснасць. Глядзіць у люстэрка і бачыць: «*Усё як раней — усё той жа твар. Не сучасны. Няправільны. У карцінных галерэях у Вільні такія ёсць, а па вуліцах з гэткімі тварамі не ходзяць. Бабчын авал твару, шэрыя кацiныя вочы. Дзедава валявое падбароддзе. Профіль як на рымскай манеце*». Вера так і жыве на скрыжаванні светаадчуванняў, двух светаў. Дапамагае тое, што яна — гісторык, таму можа дазволіць сабе паяднаць навуковую працу і даследаванне ўласнага радаводу. У аповесці вельмі шмат рэтраспекцый-адступленняў, якія часам чытаюцца больш цікава, чым апісанні штодзённана клопату гераіні.

> *Сапраўды, ва ўсіх творах Марыі Роўда галоўныя героі значна больш камфортна пачуваюцца ў кампаніі дзядоў-бабуль, а не бацькоў. Магчыма, таму, што пакаленне бацькоў было ўзгадаванае на савецкай прапагандзе, з замкнёнага кола якой дзецям усё-ткі ўдалося вырвацца.*

Прысутнічае і ў гэтай аповесці, і ў многіх апавяданнях «жаночая тэма» — тэма загружанасці жанчыны побытам, што замінае творчым і кар'ерным планам. Аднак гэтая тэма толькі абазначаная, як многія іншыя: спажывецкае стаўленне маладога пакалення да працэсу атрымання адукацыі; адзінота старога чалавека, у якога «*на магілках болей радні, чым на гэтым свеце*»; пошукі магчымасцей самарэалізацыі маладым навукоўцам і, вядома, праблема двухмоўя ў межах адной сям'і; адсутнасць паразумення паміж бацькамі, народжанымі ў 1950-х, і дзецьмі, народжанымі напрыканцы 1970-х (галоўная гераіня часам пачуваецца сіратой, а бацькі адчуваюць, што дзеці глядзяць на іх як на «*непародзістых сабак*»).

Сапраўды, ва ўсіх творах Марыі Роўда галоўныя героі значна больш камфортна пачуваюцца ў кампаніі дзядоў-бабуль, а не бацькоў. Магчыма, таму, што пакаленне бацькоў было ўзгадаванае на савецкай прапагандзе, з замкнёнага кола якой дзецям усё-ткі ўдалося вырвацца. У той жа час прысутнічае вельмі важная думка: нягледзячы ні на што, сямейныя традыцыі маюць значна большы ўплыў на фарміраванне асобы, чым школа, сябры, універсітэт, калегі. І менавіта ў гэтым — сакрэт таго, што карані беларушчыны цягам не аднаго стагоддзя прарастаюць нават пасля, здавалася б, грунтоўнай «праполкі»…

Прысутнічае ў прозе пісьменніцы і сацыяльная, і геаграфічная беларуская сучаснасць, якая апісваецца то з горкай іроніяй, то са скрушнай безвыходнасцю. Як, напрыклад, у апавяданні «Беларускі бальзам», дзе выразна чуецца сімвалічнае рэха прозы Віктара Казько — вобраз Вялікага Злодзея, якому заманулася абрабаваць пакінутую без гаспадара вясковую хату. Гераіня так балюча перажывае, што «*згвалцілі ейны родны дом, у якім яшчэ ніколі за жыццё ўсіх пакаленняў не адбылося ніводнага злачынства*».

Адной з адметных асаблівасцей празаічнай манеры Марыі Роўда можна назваць уменне прамаўляць ад імя любога персанажа. Найбольш яскрава выявілася гэта ў апавяданнях. Магчыма, менавіта таму працягам аднаго з іх «Няма Соні паратунку» стала… п'еса «Як мы ігралі». У кароткіх празаічных формах менш гісторыі і значна больш кахання. Паўтоны, паўсюжэты — менавіта па іх чытачу даводзіцца рэканструяваць складаныя гісторыі ўзаемаадносін галоўных герояў, якія блукаюць па сваіх успамінах, заглыбляюцца ў комплексы, робяць памылковыя высновы. Для характарыстыкі большасці апавяданняў падыходзіць адна схема: уладкаванае сямейнае жыццё галоўнай гераіні — патаемны агеньчык былога (першага) кахання, які ўрэшце спакушае і вядзе за сабой, — нечаканы паварот сюжэта — вяртанне гераіні ва ўлонне сям'і. Нягледзячы на тое, што амаль ва ўсіх творах — цікавыя псіхалагічныя дэталі, запамінальныя партрэты і жыццёвыя назіранні, відавочна, для аўтаркі ў такой паслядоўнасці ёсць небяспека стаць аднастайнай і паўтаральнай. Хочацца спадзявацца, што ў наступнай кнізе гэта будзе пераадолена.

> *Праз герояў найстарэйшага пакалення пастаянна ў прозе Марыі Роўда даводзіцца думка, што беларушчына насамрэч не была вырваная з карэннем, што гістарычную праўду трэба не адкрываць, а толькі пачуць.*

Асобную заўвагу хацела б акцэнтаваць на моўных недахопах. Кніга «Клінічны выпадак, альбо Дарэмныя ўцёкі» — сапраўды яркая з'ява ў сучаснай беларускай літаратуры, Марыя Роўда — таленавіты творца з адметным аўтарскім стылем і ўнікальнай тэмай. Непаразуменне выклікаюць памылкі, што даволі часта сустракаюцца на старонках кнігі, а павінны былі быць выпраўленыя пры падрыхтоўцы да друку: прабачыла/даравала *яго*, а не *яму*, здзек *над*, а не здзек *з*, думала/чытала *пра сябе*, а не *сама сабе*, *субяседнік* замест *суразмоўца*, *накірунак* замест *кірунак* (па-беларуску трэба альбо *напрамак*, альбо *кірунак*), заўсёднае *меліся/меўся/мелася* ў значэнні «былі», што па-беларуску няправільна, дзеепрыслоўныя формы кшталту «*ўрадзіўшаяся*»… Пра ўсё гэта вельмі падрабязна — у кнізе Юрася Бушлякова «Жывая мова».

На жаль, гэта не адзінкавы выпадак у сучаснай практыцы літаратурнай рэдактуры (ці, хутчэй, яе адсутнасці). Магчыма, сёння ўвесь клопат пра кнігу пакідаюць самому аўтару, а той праз некалькі дзясяткаў разоў прачытання, як гэта часта бывае, проста «перастае бачыць» уласны тэкст. Галоўная небяспека не ў тым, што гэта псуе ўражанні ад кнігі: паслядоўнае ўжыванне ў літаратурных тэкстах памылковых форм можа з цягам часу надаць ім статус нормы. У няпростых умовах функцыянавання вуснага беларускага маўлення, скрозь перасыпанага памылкамі і недакладнасцямі розных узроўняў, тэкст літаратурнага твора павінен заставацца ўзорам. Для таго, каб гэта спраўдзіць, не патрэбна ані вялікіх высілкаў, ані нейкіх асаблівых умяшанняў у аўтарскі тэкст.

Героі кнігі Марыі Роўда — акурат людзі, якія адчуваюць сябе «аскепачкамі славутага мінулага», і гэта можна назваць у нейкім сэнсе новым этапам у эвалюцыі літаратурнага героя беларускага прыгожага пісьменства: героі не блукаюць у пошуках сваёй тоеснасці, пошуках глебы пад нагамі, альтэрнатыўнай той, якую прапаноўвала савецкая школа. Яны ведаюць, што вядуць род ад старажытнага шляхецкага роду, спадчыннікі якога былі пазбаўленыя шляхецтва і маёмасці за ўдзел у паўстанні 1863 года… І ўспрымаюць гэта як належнае, як частку сваёй біяграфіі. Думаецца, менавіта ў гэтым — стварэнні новага літаратурнага героя — і ўнікальнасць творчасці Марыі Роўда, і плённы кірунак развіцця сучаснай беларускай прозы ўвогуле.

**Жанна КАПУСТА,**

*Кніга прадастаўленая «Кнігарняй пісьменніка» (вул. Казлова, 2).*

### Кнігарня пісьменніка




**Алесь ЖУК,**
**галоўны рэдактар «ЛіМа» ў 1980 — 1986 гадах:**

***— За сваю 85-гадовую гісторыю «ЛіМ» меў розныя перыяды. Спачатку выданне было газетай, потым стала штотыднёвікам і мужчынскага роду… Успамінаецца мая работа светла. Самае каштоўнае, што падарыла гэтая праца, — сустрэчы з цудоўнымі людзьмі. Хачу ўзгадаць Алеся Пісьмянкова. Калі ён канчаў універсітэт, Рыгор Семашкевіч сказаў мне: «Вазьмі на работу, харошы хлопец і харошы паэт». Пасля ўніверсітэта Алесь папрацаваў у «ЛіМе», потым — у «Полымя», потым вярнуўся рэдактарам у «ЛіМ». Меў сваю лінію: калі аднойчы яго паспрабавалі прымусіць друкаваць тое, што ён лічыў непатрэбным, ён адчыніў дзверы, паказаў дарадцам на парог. Пасля гэтага яго вызвалілі з пасады. Але ён стаў рэдактарам «Вожыка». На жаль, лёс яму даў кароткае жыццё, там жа, у рабочым кабінеце, ён памёр зусім маладым… Яго варта ўспомніць добрым словам у гэтыя юбілейныя для газеты дні.***

***Для «ЛіМа» цяпер абсяг шырокі: вялікая культура, вялікая літаратура, тэатр, выяўленчае мастацтва, музыка, народная творчасць… Хапае тэм, якія трэба аналізаваць грунтоўна, па-лімаўску. І хачу нагадаць словы патрыярха нашай літаратуры Кандрата Кандратавіча Крапівы. На заканчэнне аднаго свайго ўрачыстага вечара ён сказаў коратка і дакладна: «Да новых юбілеяў!» І я падтрымліваю словы класіка і ўсяму калектыву і чытачам зычу дабра і творчых здабыткаў.***

**За 85-гадовую гісторыю «ЛіМ» шмат для каго стаў вялікім крокам у літаратурнае жыццё. У рэдакцыйных калідорах можна было сустрэць багата пісьменнікаў. Сёння мы прадстаўляем чытачам творчасць тых, хто працаваў у штотыднёвіку ў розныя часы.**

Мікола МЯТЛІЦКІ



***

*І я спісаны ўзростам у запас,*
*З уліку ваенкамаўскага зняты.*
*І ўсцешаны, бо ў прызыўны свой час*
*Не чуў ні свісту кулі, ні гранаты.*

*Упершыню ў радзімай старане*
*Не сатварыла смерць разбою пекла,*
*Ні я ў кагосьці, ні ў адказ па мне*
*Карцеч вайны крывавае не секла.*

*Сустрэўся я з жыццёвай сівізной*
*І з мудрасцю, якой таму жадаю,*
*Хто грозіцца наступнаю вайной,*
*Збірае ў строй захопніцкую зграю.*

*Яму скажу на ўзросту рубяжы,*
*Каб думкі аб разбоі не шалелі:*
*Прыйдзі, зірні, суродзічаў крыжы*
*Шчэ на прасторах нашых не сатлелі.*

***

*Даспела шыпшына ля хаты Курылы,*
*І вецер калыша яе вейнакрылы.*

*Зрываю шыпшыніны з голля калючын,*
*Абдрапаным пальцам пякуча, балюча.*

*Ды памяць шчэ болей балюча агорне,*
*Ажно скамянее паветрам у горле.*

*Вайною хлапца, што збег з блізкага гета,*
*Курыла у лесе знайшоў сярод лета.*

*Малога за шкірку прывёў у гестапа.*
*Пуд цукру злачынцу паклалі на лапу.*

*Я ягады рву, а ў вачах той хлапчына.*
*Не менш, як па пуду, у пальцах*
*шыпшына.*

***

*На схіле веку, што ацёк крывёй,*
*І я чакаў спадзеўна золак твой,*

*Наступнік-век. Здавалася і мне,*
*Што ты патонеш шумна ў збажыне,*

*Сатрэш навечна з памяці людской*
*Жахоты ўсе гаючаю рукой,*

*І самы светлы, самы залаты,*
*Ўзвядзеш сяброўства зорныя масты,*

*Сасмяглых, што ў жыцці упалі ніц,*
*Вадой напоіш чыстаю з крыніц,*

*Заменіш на дасветную расу*
*Дзіцячую сірочую слязу,*

*Не кляцнеш зброяй згубнай анідзе,*
*Дасі адвод любой людской бядзе,*

*На новы выйдзеш велічны прастор,*
*Гукнеш зямлян ляцець да вышніх зор.*

*Ды быў дарэмным гэты мой спадзеў.*
*Не раз, мой век, я сэрцам халадзеў,*

*Не раз душу праймала навылёт*
*Ад новых несупыненых жахот.*

*І хоць прайшоў, як кажуць, паўвярсты,*
*Ды ўжо спаўна крывавым стаўся ты.*

*Ты бежанцаў імкліваю хадой*
*Свой торыш шлях, увечаны бядой.*

*Пад назіркам маўкліва-сумных зор*
*Жывую памяць Вавілона сцёр*

*І, як жахотны папярэднік твой,*
*Упіўся чалавечаю крывёй.*

*Ды веру ўсё ж: на стоўбішчы тваім*
*Не ўспыхне заўтра новых Хірасім…*

Віктар ГАРДЗЕЙ



## Пра свае нараджэнне

**1**

*Што сказаць пра свае нараджэнне?*
*Свет пабачыў на яблычны Спас —*
*На Гасподняе Праабражэнне,*
*У гарачы і горычны час.*

*Божым светам і хлеба ўжо досыць:*
*Шчодры Спас моцных коней запрог —*
*Жыта звозіць у клуні, на восець…*
*Бохан з печы, а госць — на парог.*

*Год жа першы, пасляваенны,*
*Звон царкоўны бы плакаў, гудзеў,*
*І малітвы былі за ўбіенных,*
*І за нас, хто радзіцца паспеў.*

*Многа яблык, грыбоў і арэхаў,*
*Асвяцілі і мёд у царкве.*

*Спас не любіць на полі агрэхаў:*
*Кінуць зерне ў раллю — пазаве.*

**2**

*Углядаліся ў далеч удовы,*
*Навіну з іх ніхто не малоў,*
*Гэты Спас паваенны, бядовы,*
*Ён яшчэ й дзень адлёту буслоў.*

*На балотцы лясным, на Імшэчку,*
*Клёкат сумны між чэзлых бяроз.*
*Конь пачуў і не хоча ў вуздэчку,*
*Ранні вырай — на снег і мароз.*

*Над сялібай, на сёмым пагорку,*
*Праляцелі да мора буслы.*
*Кожны з іх па адным скінуў пёрку:*
*Хай крамзоліць паперу малы.*

*Вось сяджу. Помню бабчыны байкі.*
*Звон царкоўны з-за лесу гудзе.*
*Не такі ж я і праўда лядайкі,*
*Каб знайшлі на капуснайградзе.*

## Судны дзень

*Што нам продкі збіралі вякамі,*
*«Раздарылі», спалілі да тла.*
*Калатнечамі каля катла*
*Судны дзень мы наблізілі самі.*

*Веюць грывы — ляскочуць калёсы,*
*Па шляху зрэдзь мільгнеца вазок.*
*Мабыць, хтось зачапіў незнарок —*
*Паралелі звіняць як атосы.*

*Суд не прыме мой грэх за прыгоду —*
*Экіпажа казённага стук.*
*— Павязу! — і вязе нас гайдук*
*Калымагай без вензеляў роду.*

*Жыў магнат — бедных родзічаў поўна,*
*З правам спадчыны ўвогуле шмат,*
*Бо ў сістэме каардынат*
*Пеленгуюць усіх пагалоўна.*

*Не ўцячы па шляху неўзаметку:*
*Незнаёмы, нязнаны маршрут.*
*Будзе суд! Скрыжаванні пакут*
*Шар зямны аплялі, нібы клетку.*

## Фантазія

**Жонцы Сафіі Іванаўне**

*Заснежаны Альпы, магчыма, Каўказ.*
*Спускаюся ўніз, а ў руцэ маёй — кейс.*
*У ім твой партрэт, цалаваны не раз,*
*І — белы, як снег, эдэльвейс.*

*То горны рамонак: што зорачкі — цвет:*
*Сарваў дзесь на схілах, укінуў у кейс.*
*Там розная дробязь атуліць партрэт,*
*І — белы, як снег, эдэльвейс.*

*Гадаць па рамонку? Гульня не па мне.*
*Зусім не ў цяжар перапоўнены кейс.*
*Трымаю — ніштo твой партрэт*
*не памне,*
*І — белы, як снег, эдэльвейс.*

*Ступаю над прорвай — ніжэй і ніжэй.*
*Парывісты вецер разгойдвае кейс.*
*Іду — твой партрэт горны троль*
*беражэ,*
*І — белы, як снег, эдэльвейс.*

*Каб толькі на холадзе скарб не зачах.*
*О, Божа! Сарваўся ў цясніну мой кейс.*
*Цяпер — дык бягом! Воблік твой у вачах*
*І — белы, як снег, эдэльвейс.*

**Віктар ШНІП, паэт, галоўны рэдактар «ЛіМа» ў 2002 — 2003 гадах:**

***— Я ў «ЛіМе» адпрацаваў 10 гадоў. Быў адказным сакратаром, намеснікам і першым намеснікам галоўнага рэдактара, і галоўным рэдактарам. І ўжо праляцела трынаццаць, як у рэдакцыю заходжу ў якасці аўтара. З усіх газет (выпісваю пяць) найбольш чытаю «ЛіМ». За апошніх гадоў дзесяць шмат наслухаўся ад калег па пяры, што газета даўно не тая, якой яна была і павінна быць. А штотыднёвік і не можа быць вечна адным і тым жа. Ён мяняецца, як і мы. У літаратуру прыходзяць новыя пакаленні творцаў са сваімі геніямі і графаманамі, і ўсе хочуць друкавацца, і ўсе хочуць, каб пра іх пісалі, якія яны геніяльныя. Чытаю «ЛіМ» і з нечым згаджаюся, а з нечым — і не, нешта радуе, а нешта засмучае. Пастаянна чытаю «ЛіМ» гадоў трыццаць. І ўвесь гэты час у мяне ні разу не ўзнікала жадання больш не выпісваць яго. Без «ЛіМа» не ўяўляю сваю паштовую скрынку. Праўда, некаторыя пісьменнікі даўно абыходзяцца без яго і нават хваляцца гэтым.***

***І мне сняцца сны пра «ЛіМ». Часцей за ўсё ў іх я прыходжу ў рэдакцыю на Захарава і разам з Алесем Пісьмянковым рыхтую чарговыя нумары да друку. У іх творы Уладзіміра Караткевіча, Міхася Стральцова, Янкі Брыля, Пімена Панчанкі, Вячаслава Адамчыка, Івана Пташнікава, Янкі Сіпакова, Рыгора Барадуліна, Максіма Танка, Ніла Гілевіча, Варлена Бечыка, Анатоля Сыса. На першых старонках — партрэты юбіляраў. Тэлефануе Іван Шамякін і просіць прыйсці да яго дадому па новыя дзённікавыя запісы. І я іду, а потым, пакуль вяртаюся ў рэдакцыю, паспяваю прачытаць у парку Горкага напісанае класікам. І ўсе мае сны яшчэ не так даўно былі рэальнасцю. І крыху сумна ад гэтага, але не настолькі, каб плакацца, што няма чаго чытаць. Ёсць што чытаць! І я чытаю! І я выпісваю «ЛіМ», і я хвалююся за яго, і я люблю яго. І сёння, віншуючы супрацоўнікаў і чытачоў штотыднёвіка з чарговым юбілеем, я жадаю, каб у «ЛіМа» былі аўтары, пра якіх мы марым і снім.***

Ірына ТУЛУПАВА



## Сябрына

*Сябрыны чароўнае кола:*
*Увайду ў магічны круг*
*З радасцю стрэчы і болем*
*Нязбытных жыццёвых патуг.*

*Для родных ды блізкіх прымножу*
*Лік шчырых, сардэчных сустрэч.*
*І мараў не стану стрыножваць,*
*Нягоды пакоцяцца прэч.*

*Пацісну далоні,*
*Павейкі прымружу, аж пацямнее*
*ўваччу.*
*Змагу у душэўных таемных сутоннях*
*Ход жыццядайнага часу адчуць.*

*Сяброўства, каханне, спагада,*
*пяшчота —*
*Найлепшае што з пачуцця?*
*З неадольнаю, палкай, дзівоснай*
*ахвотай*
*Выходжу нанова ў бязмежны прасцяг….*

## Малітва сялянкі

*Маці Божая Казанская,*
*Не чужая ты — светлая, наская.*
*Памалюся, як словы такія знайду,*
*Каб загойвалі боль, руйнавалі бяду.*
*Блаславі, прытуліўшы сваё*
*немаўлятка,*
*Род зямны, усіх блізкіх, драўляную*
*хатку,*
*Будавалі што продкі мае — я ў ёй*
*Каб не госцяй была — гаспадыняй*
*з сям'ёй!*
*Каб запальвала свечкі*
*ў чырвоным куце,*
*Каб кватэра была, боршч кіпеў*
*на пліце,*
*Каб суседка была мне дарадцай*
*зычлівай,*
*Шчасцем — дзеці, а муж — не гуллівым.*
*Маці Божая Казанская,*
*Ты даруй, што казала па-наскаму,*
*Так, як сэрца прасіла, напросту.*
*Для абкладу твайго пашукаю бяросту,*
*Прыбяру рушнікамі твой*
*светлы абраз —*
*Помні толькі заўсёды*
*пра грэшнікаў, нас!*
*У дарозе зямной стань святлом*
*непагасным,*
*Што вядзе нас у храм да святога*
*прычасця!*

## Роздум

*Я кахаю. Кахаю? Кахаю!*
*Пачуццё яркім полымем*
*Цябе, іскра, агарну.*
*Мне ні пекла не трэба, ні раю —*
*Я з душой трапяткою, аголенай,*
*Стрэну вочы твае і ў іх — патану!*

*Я збіраю. Збіраю? Збіраю!*
*Слоў неслухмяных мазаіку.*
*Адшукаю ў тым адмысловы знак,*
*Як легендай праўдзіва-жывою*
*Сталі показі прадказальнікаў*
*пра жаданняў віхуры: «Іначай — ніяк!»*

*Я паверу. Паверу? Паверу!*
*Будуць радасць, і сум, і спатканні*
*да раніцы,*
*Ды пяшчота. Ды шэпты*
*зайздросных сяброў.*
*І каханне, якое без меры.*
*Але толькі каб звадца тваёю*
*абранніцай,*
*Смутак, стому і радасць гатова*
*я зведаць нанова.*

# Пытальнік і шматкроп'е

*Старонкі з новай аповесці*



Анатоль КАЗЛОЎ

— У жыцця не можа быць сюжэта, яно, жыццё, пастаянны пошук аргазму. Хоць мы часта і баімся альбо не хочам у гэтым прызнацца. І паспрабуй не пагадзіцца з такой высновай. Канешне, мы пачынаем спрачацца, але адразу ж адчуваем, хоць і не паказваем выгляду, што хлусім не толькі сабе, а і ўсяму свету. Але якая справа нам да Сусвету, як, дарэчы, і яму да нашай амёбнай сутнасці. Ды ўсё ж для пошуку аргазму ўсе сродкі добрыя. Бо калі мы не дасягаем, не атрымліваем аргазму (душэўнага, фізічнага, маральнага…), то пачынаем усё і ўсіх далёка-далёка адпраўляць, нават без адраса прызначэння… Нам робіцца пофіг праца, сябры, кінафільмы, класіка сусветнай паэзіі, палітычныя падзеі ў краіне і за яе межамі, смачныя стравы ў полудзень… Мы падаем, захлынаемся ў роспачы, нам не хочацца жыць, але вось ён, чарговы ўзлёт: проста надышоў новы дзень альбо вечар, і ў нас пачынаецца ўсё наноў. Мы шукаем самых сябе ў вакольным неабдымным акіяне людскіх спакус. Мы ўсё робім для аргазму: прыгожа апранаемся, імкнёмся добра выглядаць, не хаваем пажадлівасці ў вачах і позірках. Нашы пальцы чуйныя, сэрцы гарачыя, вусны набрынялыя, бо намі рухае жаданне кахаць… без усялякага сюжэта. Завязка-ўступ, разгортванне падзей, кульмінацыя могуць заняць лічаныя хвіліны, ну няхай пару гадзін. Як у каго. Але сюжэт не галоўнае, апагей усяму — аргазм! — Ад даўгаватага маналогу ў Антона перасела ў горле. За гэты час ён паспеў выкурыць пару цыгарэт, прыпальваючы адну ад адной. Цяпер ён зацягнуўся чарговай. Ірына ж, падпёршы вузенькі падбародак далонню, не збіралася нават і спрачацца. Яна, відаць, асэнсоўвала пачутае ці, можа, думала пра нешта сваё. Як тут уведаеш?..

На іхнім століку ў летняй кавярні даўно астыла кава ў кубачках, а бутэрброды зморшчыліся ад цеплыні і задушлівай спёкі. Абедзенны перапынак яшчэ не скончыўся, спяшацца не мела сэнсу, і яны бавілі час у нязмушанай гаворцы. Антон з Ірынай працавалі непадалёк, у архітэктурна-праектнай канторы, іхнія рабочыя крэслы цесненька туліліся адно да аднаго. Ну і яны, мужчына з дзяўчынай, неяк незаўважна пасябравалі. Менавіта так, пасябравалі, бо Антон быў аднаго года нараджэння з Ірыніным бацькам. На нешта большае за сяброўства Антон і не адважыўся б. Ва ўсялякім разе з Ірынай. Ён адчуваў да дзяўчыны нешта кроўнае і роднае, як да сястры. Нават думка пра любошчы з Ірынай патыхала інцэстам.

— Слухай, калі ты апошні раз бачыўся з жонкай?

— З якой? Канкрэтызуй. — Лоб у Антона збегся гармонікам.

— Ну хоць бы з апошняй. — Вусны Ірыны расцягнуліся ў штучнай усмешцы, як у лялькі-клоўна.

— Табе навошта гэта ведаць, дзяўчынка мая?

— Ды гаворка пра сюжэт і аргазм пацвердзілі маю здагадку, што жонкі ў цябе былі халаднейшымі за замарожаную акіянічную рыбу. Інтуіцыя падказвае, што не на тых кабет рабіў стаўку. Можа, мне паспрабаваць упрыгожыць тваё нуднае існаванне? — Ірына гулліва падміргнула, — тады і раскладзецца ў тваёй галаве ўсё па патрэбных палічках.

— Ах ты мая хароша, няўжо набіваешся ў чарговую палюбоўніцу? —Антон прымружыў левае вока.

— А чаму б і не? Паглядзі на мяне лепш! — Ірына прыўзнялася з крэсліца, крутнулася на паўабарота ўлева-ўправа, — кожны другі з хлопцаў і мужчын азіраецца, калі я іду па праспекце, ды і ў метро праходу не даюць. Толькі і чую: «Дзяўчына, давайце пазнаёмімся». «Ух, якая прыгажуня!». «За адну ноч паўцарства аддаў бы!»… А ты грэбліва моршчыш ад мяне нос.

— Ну дагаварыліся! — Антон гучна выдыхнуў і патушыў недакурак у попельніцы. — Сёння пасля працы і паедзем да мяне, — сур'ёзна і ўпэўнена прамовіў мужчына. — Калі ты пайшла па руках, як сама сцвярджаеш, то чым я горшы за кожнага другога.

— Дурненькі ты мой, — Ірына нахілілася і пацалавала Антона ў шчаку. — І за што я цябе люблю, сама не ведаю. Але ўпэўнена, што пасцельны пачатак між намі будзе канцом усяму іншаму. А ўсё іншае, — яна на хвілінку прымоўкла, задумалася, — значна важней для мяне, чым баруканне на тваёй легендарнай канапе. Ведай, што я цябе проста люблю, як ідэал мужчыны.

— Дзякуй, хоць ты і загнула, мая прыгажунька. Як жа мне жыць далей, каб не сапсаваць створаны табой вобраз ідэала?

— Проста жыві як і раней. Нікуды не знікай. А то надумаў мне сыходзіць з працы. Каб я больш не чула такіх размоў. У наш час дурні кіруюць светам. Наша дамачка не выключэнне. Чаму сам не пагадзіўся заняць гэтае месца? Табе ж настойліва прапаноўвалі. Глядзіш, па старой дружбе, і мне б вальней дыхалася, — нарэшце скончыла Ірына і адкінулася на спінку крэсліца.

— Перастань, маё золатка, таўчы ваду ў ступе. З цяперашнімі геніямі я не спрачаваўся б усё роўна. Не месца вераб'ю сярод нахабных варон. Як гаворыцца, трэба ведаць, калі сеяць і калі жаць…

— Ну-ну, не распальвайся, — пачала супакойваць субяседніка дзяўчына, — усё я выдатна разумею і бачу. Такім правільным, як ты, — не месца ў хцівай абойме кіраўнікоў. — Ірына залілася шчырым смехам. — Прабач за слова «правільны». Ты самы няправільны з усіх правільных, якія я толькі ведаю. Табе і ў галаву не прыходзіць, як не даспадобы мне стандартнасць і агульная шараговая шэрасць. Бр-р-р. Ты не згодны? — Ірына з непрыхаванай надзеяй пазірала ў вочы калегі. Антон жа не ведаў, што і адказаць. Яму ў глыбіні душы і самому не падабалася быць «як усе», але ж пражытыя гады, вопыт сведчылі, што ў агульнай і аднароднай масе лягчэй і прасцей выжыць. Не дарэмна ж і марскія ды акіянічныя рыбіны збіраюцца ў гурты-касякі. Дзякуючы гэтаму і выжываюць. З даўніх часоў неардынарных і арыгінальных забівалі камянямі ці спальвалі на вогнішчах. Цяпер іншыя метады барацьбы. А генетычная памяць не дае забыцца на мінулае. Яно, мінулае, закладзена ў кожнай клетачцы нашага цела.

Думкі, што прамільгнулі ў галаве, Антон не стаў пераказваць Ірыне. Усяму свой час. Спасціжэнне жыццёвых універсітэтаў у дзяўчыны яшчэ наперадзе. Навошта прыспешваць бег часу? Яна шчаслівая ў сваім няведанні, то хай і пабудзе ў ілюзорнай і хліпкай абалонцы святой прастаты. Вопыт — справа нажыўная.

— Ага. Я шчаслівы знаходзіцца побач з такой неардынарнай зеленавокай прыгажуняй з браслаўскіх краёў. — Антон ёрзнуў на крэсліцы, пасунуўся бліжэй да Ірыны, прыабняў яе за плечы. — Шчасце ты маё неахопнае.

— Во ўляпіў — неахопнае… усяго ж пяцьдзясят з невялічкім кіляў жывой вагі. — Ірына сербанула даўно астылай кавы. — Скажы лепш, дзе знайсці вартага кавалера? Увесь час трапляюцца нейкія недаробкі…

— Ты ж у нас аматарка арыгінальнасці, вось табе неардынарныя і паўстаюць на дарозе. У чым праблема?

— Не так зразумеў ты мае словы. Неардынарнасць павінна быць не столькі знешняй, колькі…

— Унутранай? — Антон скептычна скрывіў грымасу. — Ведаеш, мая дзяўчынка, агульнае мінулае ці нават асабістае не зграбеш у поліэтыленавы пакет і не выкінеш у смеццеправод. Мы проста навучыліся думаць як усе, гаварыць як усе, жыць як усе і нават сексам займацца як усе. Якой яшчэ арыгінальнасці, нестандартнасці табе закарцелася?

— Прыехалі! — Ірына паднялася з-за століка. — Час вяртацца на працу. І не прыкідвайся прастачком. Ты вельмі добра зразумеў, пра што я хацела сказаць. Канешне, прасцей жыць з пясочным шчасцем за пазухай, чым стаяць на вяршыні скалы над прорвай і захапляцца пругкасцю ветру, які намагаецца падштурхнуць цябе ў спіну ды радавацца сонцу над гарызонтам, якое праз пару хвілін схаваецца, і ты апынешся ў абсалютнай цемры. Вось і ўзваж: скалы, прорва, цемра і ты адзін… Канешне, лепш ужо пясочнае шчасце мець. Аніякай рызыкі.

— Вось і прыйшлі да агульнага разумення. — Антон пакінуў грошы пад сподачкам, і яны няспешна пакрочылі да найбліжэйшага падземнага перахода. Мітуслівыя гараджане абміналі нетаропкую парачку. Па шырокай вуліцы праносіліся аўтамабілі, вялікі элекронны гадзіннік на фасадзе заводскага будынка адлічваў пражытыя хвіліны і нібыта ставіў кропку паміж мінулым, пражытым — згубленым светам — і будучым, якое, не паспеўшы нарадзіцца, — паміра-ла, ператваралася ва ўжо здзейсненае. Ну ніяк не ўтрымаць секунды на адным месцы. Толькі паспееш прамовіць «дваццаць два», а секунда, твой час, шмыганула ўжо з будучыні ў мінулае. Абсурд? Не, жорсткая рэальнасць…

— Хачу сёння напіцца! — Антон прамовіў гэта як факт, які немагчыма аспрэчыць. Такое жаданне ўзнікла ў яго толькі-толькі. Яно нарадзілася на губах.

— Ты вечарам нікуды не збіраешся? — ён скасавурыўся на Ірыну. — Не хочаш скласці кампанію адзінокаму, але даволі яшчэ прывабнаму і не закамплексаванаму спадару? Гарантую якаснае піўцо, добрую музыку і не нудотнае баўленне часу. Ты ўсё роўна ў сваім інтэрнаце не заседзішся. Сяброўкі выцягнуць на танцулькі ці вечарынку. Не факт, што яна ўдасца на ўсе сто. Са мною ж ты будзеш у поўнай бяспецы, не згубіш у чарговы раз сваю дзявоцкасць, ды і раніцай на працы адчуванне будзе лепшае, чым пасля таннага пойла вечарынкі на вечар. — Здавалася, што Антон угаворвае не столькі дзяўчыну, колькі самога сябе. Ён ужо не адчуваў упэўненасці ў прынятым рашэнні. Яму патрабавалася падтрымка збоку, каб не было магчымасці для адступлення.

— Канешне, пайду. Тым больш — планаў на вечар аніякіх. — Думала, што ў лепшым выпадку вывуджу французскую ці італьянскую камедыю з сеціва. Пакуль прыгатавала б вячэру, фільм і спампаваўся б. Антон, ты мой герой і выратавальнік! — Ірына ўхапіла мужчыну пад руку. — Без перабольшвання як скарб Саламона і каўчэг Запавета.

— Астынь, прыгажунька. Я звычайны мужчына, якому закарцела ўпіцца і напаіць бязмозглую маладую курачку.

— Ну ты і правакатар, Антоха. Сама не ведаю, за што цябе люблю. Карысці ж аніякай, быццам ад казла малака, а вось жа прыліпла, дурненькая баба.

— Да бабы табе яшчэ далёка, дзяўчынка мая, — Антон павярнуў галаву і, нахіліўшыся, пацалаваў каляжанку ў макаўку. Ад валасоў Ірыны пахла лугавой кветкай і маладой свежасцю.

Рэшта дня на працы прайшла як заўсёды: маўкліва, нудна і ў зацятасці. Раней жа іх кантора поўнілася гаманой, палкімі сяброўскімі спрэчкамі і маладым задорам. Гэта пры папярэднім кіраўніку «старой школы», якога незаўважна спіхнулі на пенсію. Прызначылі ж на месца Яўхіма Пятровіча прэтэнцыёзную, амбітную, нікому не вядомую ў асяродку архітэктараў, шэрую мыш Дуню Іванаўну. Вось тут усё і пачалося. Задуманыя і выкананыя праекты ляцелі ў кошык са смеццем, дамоўленасці ды кантракты скасоўваліся, спіхваліся ілбамі супрацоўнікі, узнікалі спрэчкі і сутычкі. Адным словам — жыццё-маліна. Усе адчулі сябе бязглуздымі лялькамі ў руках няўмеліцы-лялькавода. Праўду гавораць у гушчыні народа, што калі Бог не дае чалавеку розуму, то д'ябал паспешна запаўняе тую пустату нікчэмнасцю ды дурнотай… Але каму сёння да гэтага справа? Кантора пакуль ліпела, трапятала, як асінавы лісток пад пранізлівым восеньскім ветрам. Канвульсіўна дажывала свае дні, месяцы. Канешне, брыдка сустракаць на дарозе гіену ў авечай скуры, бо ў першыя хвіліны губляешся і не ведаеш, не разумееш, хто перад табою і што рабіць: пашкрэбаць за вухам ці даць выспятка. Ды такія стварэнні вельмі хутка праяўляюць сваю сутнасць, бо не могуць доўга ўтрымаць іклы ў чорнай пашчы…

— Колькі ні сядзі на працы, а дамоў ісці трэба, — Ірына парушыла сумныя развагі Антона. — Ты ў пасляабеддзе і слова не прамовіў, — дадала дзяўчына. — Можа, перадумаў весці мяне ў клуб?

— Ведаеш, дзяўчынка мая, чалавек у жыцці адзінаму вучыцца без асаблівай цяжкасці, гэта — разбураць сябе. Тут настаўнікі не патрэбны. Пойдзем, пойдзем мы з табою ў клуб… Хоць, папраўдзе кажучы, у маім жыцці надышоў час, калі патрэбна гаварыць «не» каханай, сябрам, начальнікам, а ў першую чаргу самому сабе.

— Не зразумела вашы сентэнцыі, спадар Антон. Што, цяпер такая мода дынаміць прыгожых дзяўчат? Хоць распні на крыжы, а я дакладна не зразумела: мы ідзём у клуб ці разбягаемся па хатах?

— Я ж сказаў, што ідзём. Можам для пачатку зазірнуць у ірландскі паб. Ён нядаўна адкрыўся. Добрае месца. Упэўнены, што туды ты яшчэ не паспела збрындаць.

— Вось і памыляешся. — Ірына крыўдліва надзьмула вусны. — Па-першае, сам ведаеш, я піва не люблю. Па-другое, Веранічка мяне сцягала ў гэту забягалаўку. Там ад суму мухі дохнуць. Адны пенсіянеры ў ірландскім пабе піва жлукцяць ды задрыпаны гітарыст па струнах дрынькае. А па-трэцяе, ехаць аж да МКАДа мяне неяк не торкае. Цікавых і вартых нашай увагі мясцін і ў цэнтры горада дастаткова. Я слушна кажу, Антон бацькавіч? Не спрачайся, а то цяпер ты пачнеш гаварыць, што ў жыцці бываюць хвіліны, калі лепш з'ехаць далей ад мітусні гарадскога цэнтра і асушыць куфаль добрага піва ці порцыю віскі.

Адразу папярэджваю, дарэчы, не ў першы раз, што віскі я таксама не п'ю. І кропка тут.

Антон з Ірынай ужо выйшлі з офіса і рухаліся ў бок недалёкага сквера, каля рэчкі, ад якой, як ні дзіўна, але не цягнула нават прахаладай. Угрэтае за дзень паветра падавалася набрыняла-цягучым ад выхлапных газаў аўто, разагрэтага асфальту і ўмакрэла-потных целаў двухмільённага горада. Антону сапраўды хацелася з'ехаць кудысьці на ўскраіну, дзе яшчэ захаваліся лапікі з кустоўя і чэзлых дрэў на нешырокіх палосках палёў са збажынай і кукурузай. Якраз да МКАД, па якой нястомным ланцугом праносіліся ўтомленыя аўтамабілі...

**Анатоль КАЗЛОЎ — галоўны рэдактар «ЛіМа» ў 2003 — 2009 гадах.**

# «Скарынаўка» — беларускі дыпламат у Лондане

Беларуская бібліятэка і музей імя Францішка Скарыны ў сталіцы Вялікабрытаніі па праве лічыцца найбуйнейшым цэнтрам беларусістыкі па-за межамі нашай краіны. Яе гісторыю і будучыню абмяркоўвалі падчас круглага стала ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Але якую каштоўнасць яна мае для ўсіх беларусаў?

Пачалася гісторыя «скарынаўкі» ў шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя дзякуючы групе святароў беларускай каталіцкай місіі ў Лондане: яны хацелі захаваць спадчыну, якая апынулася ў прыватных руках беларускіх эмігрантаў. Таксама беларуская бібліятэка павінна была стаць месцам навучання для тых, хто цікавіцца нашай краінай на Захадзе. Айцец Аляксандр Надсан, айцец Леў Гарошка і біскуп Чэслаў Сіповіч — гэта заснавальнікі маленькай Беларусі на поўначы Лондана, дзякуючы якім зараз мы маем вялікі цэнтр беларускай літаратуры і культуры ў Заходняй Еўропе.

Дзеля прэзентацыі «скарынаўкі» на Міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы Мінск наведаў Ігар Іваноў, сакратар Бібліятэчнай рады Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны. Ён нагадаў імёны тых, хто зрабіў унёсак у гэтую справу: даследчык беларускай культуры Гай Пікарда; славіст, даследчык беларускай гісторыі і культуры Джым Дынглі; даследчык беларускай літаратуры Арнольд Макмілін. Працаваў у бібліятэцы і Адам Мальдзіс, знакаміты беларускі навукоўца, літаратуразнаўца. Пэўны час ён быў нават "агентам" па падборы літаратуры для «скарынаўкі». Ігар Іваноў распавёў, што стварэнне бібліятэкі стала рэальнасцю, бо ў ёй была патрэба. І менавіта намаганні беларускіх святароў і брытанскіх экспертаў дазволілі заснаваць і пашырыць фонд ведаў пра нашу культурную спадчыну.

— Мы вызначылі чатыры кірункі, якімі б хацелі працягваць займацца як частка беларускай супольнасці ў Вялікабрытаніі. Бібліятэка ахоўвае культурную спадчыну беларусаў, умацоўвае жыццё гэтай супольнасці праз доступ да культурных артэфактаў у розных формах. Таксама садзейнічае, папулярызуе акадэмічнае беларусазнаўства і заахвочвае зацікаўленне Беларуссю сярод брытанскага грамадства, — падкрэсліў Ігар Іваноў.

Намеснік дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтваў Наталля Гардзіенка акцэнтавала ўвагу навукоўцаў на тым, што далёка не ўсе архіўныя зборы бібліятэкі яшчэ апісаныя і апрацаваныя. Яна наведвала «скарынаўку», працавала з яе матэрыяламі і як спецыяліст заклапочана лёсам дакументаў фонду бібліятэкі.

— «Скарынаўка» захавалася як уласна беларускі асяродак, інтэлектуальны, архіўны і кнігазборчы. Тут ёсць архівы не толькі брытанскіх беларусаў, але і нашых суайчыннікаў з усяго свету, — адзначыла Наталля Гардзіенка. — Матэрыялы бібліятэкі патрабуюць не проста апісання і вывучэння, але часам і рэстаўрацыі, кансервацыі, бо ўмовы захоўвання, на жаль, былі не вельмі добрыя. Гэта ўнікальныя зборы, якія мусяць быць пакінутымі для гісторыі і для даследчыкаў.

Але што асабліва цікавіць сёння: як больш наблізіць гэтую спадчыну да беларусаў? Бо не толькі брытанцы і іншыя еўрапейцы павінны мець пэўную сувязь з беларускай бібліятэкай, але і мы самі.

Алесь Суша, намеснік дырэктара па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, патлумачыў:

— Калі мы кажам пра двухбаковы фармат супрацоўніцтва, то тады павінны працаваць абодва бакі: і беларускі, і, у дадзеным выпадку, брытанскі. Ёсць цэлы шэраг механізмаў, якія даўно дзейнічаюць у супрацы ўстаноў культуры, у дадзеным выпадку бібліятэк. Мы маем фармальнасці кшталту дамовы аб супрацоўніцтве, мы маем механізмы міжбібліятэчнага, у тым ліку міжнароднага, дакументаабмену, у межах якога яшчэ з савецкага часу са скарынаўскай бібліятэкай абменьваемся літаратурай… Але вельмі важна, каб у шырокіх колах грамадства з'явілася разуменне, што па-за межамі нашай краіны захоўваецца найбагацейшая культурная кніжная спадчына. Гэтыя матэрыялы могуць быць вернуты ў самых розных варыянтах. Нешта магло б быць вернута фізічна як арыгінальныя кніжныя помнікі. Гэта могуць быць акцыі добрай волі нашых калег у Вялікабрытаніі. Але пры ўсім гарачым жаданні атрымаць рэдкія кнігі мы не можам настойваць на гэтым. Другое, так званае часовае, вяртанне — стварэнне экспазіцый ці выставак для прадстаўлення «скарынаўкі» ў Беларусі на пэўны перыяд. На шчырасці, сёння, калі межы ў нейкім сэнсе ўмоўнасць, нам не так істотна, дзе, у якім сховішчы ляжаць пэўныя рукапісы. Калі ёсць магчымасць прадставіць іх у экспазіцыі сёння тут, а заўтра — у Лондане, то гэта вырашае большасць пытанняў. Трэці кірунак — вяртанне ў віртуальным сэнсе. Стварэнне лічбавых калекцый ці электронных бібліятэк, якія будуць агульнадаступнымі праз сеціва. Такі варыянт можа быць здзейснены рознымі шляхамі. Чацвёрты варыянт — вяртанне ў навуковы і грамадскі ўжытак. Для гэтага мы ладзім такія сустрэчы, робім публікацыі ў сродках масавай інфармацыі і навуковых выданнях. Шматбаковая папулярызацыя беларускіх калекцый, што знаходзяцца за мяжой, — таксама вяртанне ў грамадскі ўжытак. Бо без разумення вартасці, без пашырэння звестак пра гэтыя калекцыі сэнсу ў іх вяртанні не будзе. Але ёсць і фармальнае, і рэальнае жаданне супрацоўнічаць. Ёсць і канкрэтныя людзі, спецыялісты, якія гараць ідэяй і гатовы сваімі сіламі працаваць дзеля гэтых патрэб.



*Сакратар Бібліятэчнай рады Беларускай бібліятэкі і музея імя Францішка Скарыны (Вялікабрытанія), магістр Ігар Іваноў падчас круглага стала ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.*

**Яна ПАЛЯШЧУК**

# Мінулае — дзеля будучыні

## Збіраем камяні: 30 гадоў працы Беларускага фонду культуры

Насамрэч, калі б Беларускі фонд культуры вёў толькі адну праграму, гэта ўжо была б вялікая праца. Але за дзесяцігоддзе існавання было шмат праектаў, дзякуючы якім нашы суграмадзяне даведаліся пра сваю краіну больш, а краязнаўства стала не толькі папулярнай тэмай, але і часткай жыцця асабліва зацікаўленых асоб — краязнаўцаў. І ўсё ж застаюцца яшчэ задачы, якія нам — і Беларускаму фонду культуры — вырашаць далей.

Дзякуючы дзейнасці Беларускага фонду культуры ўжо больш за 20 гадоў працуе праграма «Вяртанне нацыянальных каштоўнасцей». Найперш яе задачай было вызначэнне матэрыяльных каштоўнасцей Беларусі, якія пакінулі нашу краіну па розных прычынах і не вернутыя дагэтуль.

Гэтай тэме прысвечана восем тамоў кнігі «Вяртанне», выдадзенай з удзелам БФК. Гэта падрабязны навуковы аналіз страчанай спадчыны ад музейных спісаў і да выступаў спецыялістаў па тэме гісторыі пэўных экспанатаў і культурных каштоўнасцей. З'явіўся гэты праект у тым ліку дзякуючы вялікаму руплівцу, прафесару Адаму Мальдзісу.

— Нас заўсёды пытаюць: а што ж нам удалося вярнуць? На гэта пытанне альбо вельмі складаны адказ, альбо адказу няма. Бо вярнуць вельмі няпроста. Напрыклад, з Луўра спрабавалі вярнуць свае культурныя каштоўнасці Егіпет, Турцыя, Грэцыя, але пакуль што нічога не атрымалася, — распавёў старшыня рады Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп. — Але ў нас іншая сітуацыя: ёсць каштоўнасці, якія вывезены ў законным парадку. У 1951 годзе польскі ўрад звярнуўся да урада БССР, каб вярнулі сто партрэтаў Радзівілаў. ЦК КПСС даў вырашыць гэтае пытанне народу, а беларусы, абсалютна не заявіўшы спробы даказаць, што Радзівілы — гэта нашы, а не польскія магнаты, вярнулі «польскія партрэты» Радзівілаў у Варшаву.

І гэта зусім не выключная гісторыя. Падобнае адбывалася ў нашай краіне цягам дзесяцігоддзяў, калі беларускі народ быў адлучаны ад свайго мінулага. Разам з гэтым шмат нашай спадчыны было вывезена незаконным шляхам ці эвакуіравана і не вернута. Такая гістарычная рэліквія, як крыж Ефрасінні Полацкай майстра Лазара Богшы, да Вялікай Айчыннай вайны была ў экспазіцыі магілёўскага музея. Наогул, фонды беларускіх музеяў да Вялікай Айчыннай вайны былі значна багацейшыя. Напрыклад, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі быў шэраг работ Юдэля Пэна, а таксама калекцыя заходнееўрапейскага жывапісу — творы мастакоў фламандскай і італьянскай школ сямнаццатага стагоддзя і інш. А ў Баранавічах беларусы маглі пабачыць арыгіналы Рэмбранта і Тэадора Жэрыко.

— Зараз вярнуць тыя ж партрэты Радзівілаў мы не маем магчымасці. І вымушаны рабіць копіі, спадзявацца на падарункі. Дзякуй, што ёсць людзі, якія спрыяюць гэтаму, у тым ліку ў Міністэрстве культуры Польшчы, грамадскія арганізацыі дапамагаюць, і нешта нам удаецца вярнуць. А ўсё астатняе калі і вяртаецца, то дзякуючы сродкам, якія мы ўкладваем, — адзначыў старшыня рады БФК.

Нягледзячы на тое, што Камісія пры Савеце Міністраў па выяўленні, вяртанні, сумесным выкарыстанні і ўвядзенні ў навуковы і культурны ўжытак нацыянальных культурных каштоўнасцей, якія апынуліся за межамі Беларусі, працуе ўжо каля васьмі год, намеснік міністра культуры Васіль Чэрнік указаў на тое, што ў нас адсутнічаюць законы аб рэстытуцыі каштоўнасцей.

— У Рэспубліцы Беларусь адсутнічаюць нарматыўныя акты аб рэстытуцыі культурных каштоўнасцей. Гэта вельмі вялікая праблема для нас сёння, — адзначыў Васіль Чэрнік. — Я думаю, што камісія ў абноўленым складзе, якая павінна ўжо зараз збірацца і працаваць, мае шмат правоў, каб паставіць пытанне пра распрацоўку такога закона.

Разам з гэтым савет Беларускага фонду культуры ўздымаў шэраг пытанняў, да якіх трэба прыцягваць увагу. Анатоль Бутэвіч, намеснік старшыні савета БФК, адзначыў, што вельмі важна падкрэсліць значэнне старажытнага горада Полацка — як калыскі беларускай дзяржаўнасці. Тадэўш Стружэцкі, таксама намеснік старшыні рады, расказаў, што ў гэтым годзе павінна пачацца праца па пераўтварэнні вёскі Будслаў у цэнтр турызму і культуры. Сярод прапаноў фонду на 2017 год — наданне імя Францішка Скарыны Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і адкрыццё мемарыяльнага знака «Беларусам свету».

**Яна ПАЛЯШЧУК**

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, паэт, празаік, публіцыст, галоўны дырэктар міжнароднага радыё «Беларусь»:**

***— З юнацтва «ЛіМ» быў для мяне своеасаблівым акном у беларускую літаратуру, дыскусійнай пляцоўкай, месцам, дзе публікаваліся мае першыя паэтычныя спробы і журналісцкія матэрыялы, якія дасылаў поштай. Жыў я тады на Полаччыне, таму гаварыць з супрацоўнікамі даводзілася ў асноўным па тэлефоне. Першыя суразмоўцы і дарадцы — Юрась Свірка, Галіна Каржанеўская, Міхась Замскі, Алесь Марціновіч. Было прыемна, калі мне пачалі замаўляць матэрыялы на самыя розныя тэмы, прапанавалі ўдзельнічаць у дыскусіях пра розныя з'явы творчага працэсу. «ЛіМ» быў трыбунай не толькі для літаратараў. І кола яго чытачоў не абмяжоўвалася толькі дзеячамі культуры.***

***Нават не марыў, што некалі буду супрацоўнікам газеты. Хоць і кароткі час давялося папрацаваць намеснікам галоўнага рэдактара, калі штотыднёвікам кіраваў цудоўны паэт, мой незабыўны сябра Алесь Пісьмянкоў. Алесь з нейкай незвычайнай трапяткой любоўю ставіўся да рэдактарскай працы, пастаянна шукаў яркія хады ў афармленні газеты, прыдумваў цікавыя тэмы. Ніводная паэтычная падборка ці апавяданне не праходзілі без яго непасрэднага ўдзелу ў іх абмеркаванні.***

***Штодня ў «ЛіМ» заходзілі вядомыя творцы. Частымі гасцямі былі Іван Шамякін, Янка Брыль, Сяргей Грахоўскі, Ніл Гілевіч, Іван Пташнікаў, Рыгор Барадулін… Часам гэтыя наведванні ператвараліся ў сапраўдныя сумоўі: размова ішла пра лёс літаратуры, пра творчыя здабыткі і актуальныя праблемы. Для мяне і сённяшні «ЛіМ» — жаданы сябра, захавальнік роднага слова, люстэрка нашага літаратурнага жыцця.***

*Конкурсы*

# ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ПЕСНЯРУ



Фота Кастуся Дробава.

*Анатоль Гармаза ўручае асобы прыз ад рэдакцыі газеты «Шапакляк» (намінацыя «Выяўленчае мастацтва»).*

У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа падведзены вынікі конкурсу творчых работ «І складаюцца самыя дзівосныя казкі…», прымеркаванага да 110-годдзя пачатку творчай дзейнасці Якуба Коласа, 90-годдзя верша «Савось-распуснік» і 95-годдзя зборніка алегарычных апавяданняў «Казкі жыцця».

На адрас музея прыйшло каля 400 мастацкіх і літаратурных работ з усёй Беларусі, якія адлюстроўваюць уяўленні сучаснай моладзі пра герояў твораў Песняра. Найбольш актыўна праявілі сябе вучні Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей, а таксама юныя творцы са сталіцы. У журы конкурсу былі запрошаны вядомыя беларускія паэты, мастакі і дзеячы культуры: Рыгор Сітніца, Анатоль Гармаза, Леанід Хобатаў, Міхась Пазнякоў, Алена Стэльмах, Казімір Камейша, Анатоль Зэкаў, Алесь Марціновіч.

Вызначыць лаўрэатаў аказалася складана, таму ў конкурсе па выяўленчым мастацтве прысудзілі пяць гран-пры, 11 першых месцаў, 11 — другіх і 8 — трэціх. У літаратурным конкурсе — 4 гран-пры, 4 першыя месцы, 5 другіх і 5 трэціх месцаў.

Урачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў адбылася ў Вялікай гасцёўні дома Коласа. Але спачатку лаўрэаты конкурсу і госці музея пазнаёміліся з адмысловай экспазіцыяй, падчас якой сваё вершы чытаў сам Паэт, размаўлялі пра жыццё і каханне Ядвіся і бабка Мар'я, іграў песні-жальбы маленькі Сымонка.

Самыя таленавітыя з удзельнікаў атрымалі спецыяльныя прызы ад Саюза мастакоў Беларусі, Саюза пісьменнікаў Беларусі, Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, Паліграфкамбіната імя Якуба Коласа, рэдакцыі часопіса «Вясёлка», выдавецтва «Чатыры чвэрці», «Настаўніцкай газеты» ды інш.

Работы пераможцаў конкурсу можна ўбачыць у выставачных залах музея Коласа.

**Юлія КІШКУРНА**

# Класік, бацька, гаспадар

Выстаўку, якая месціцца ў дзвюх музейных залах, умоўна можна падзяліць на дзве часткі: на другім паверсе Колас прадстаўлены ў доме і на сядзібе сярод родных і блізкіх, сяброў. Кожны фотаздымак — яшчэ адзін штрых да партрэта Песняра як звычайнага чалавека. Некаторыя здымкі праілюстраваны цытатамі з твораў паэта, вытрымкамі з дзённіка і ўспамінаў людзей, з якімі яго звёў лёс.

Асабістыя рэчы Якуба Коласа — своеасаблівая звязка паміж рукапісамі і асобаю самаго Песняра. Яны прадстаўляюць не толькі канкрэтную асобу, але і цэлую эпоху. Кожны прадмет, што «памятае» дотык яго рукі, — найкаштоўнейшы экспанат музея.

Другая частка выстаўкі «Якуб Колас: вядомы і невядомы» прэзентуе Песняра ў соцыуме: Якуб Колас сярод дзяржаўных дзеячаў падчас дзяржаўных свят; на пасяджэннях з нагоды юбілеяў супрацоўнікаў і калег; за межамі нашай краіны — у Маскве разам з сябрамі і калегамі-пісьменнікамі, з перакладчыкам і сябрам Сяргеем Гарадзецкім. Цікавы фотаздымак з дарчым надпісам рускай паэтэсе Святлане Сомавай, з якой лёс звёў паэта ў Ташкенце падчас эвакуацыі. Фотаздымак зроблены ў гасцініцы «Масква», з надпісам: «Дорогому другу Светлане. Смотрите — гляжу сердито, чтобы Вы сердито относились к жизни. Я. К. 12.3.1946».

У 1935 годзе Якуб Колас у складзе савецкай дэлегацыі ўдзельнічаў у Міжнародным кангрэсе пісьменнікаў у абарону міру ў Парыжы. У рабоце кангрэса ўзялі ўдзел 230 пісьменнікаў з 38 краін. Сведчаннем паездкі з'яўляецца фотаздымак, зроблены ў час выступлення Якуба Коласа з прамовай. З Парыжа разам з падарункамі для родных і блізкіх Колас прывёз сувенір, прадстаўлены на выстаўцы, — сілуэт, выразаны з чорнай паперы майстрам на Эйфелевай вежы.

Колас у Санкт-Пецярбургу з калегамі-пісьменнікамі па запрашэнні ленінградскага аддзялення СП СССР, у Маскве — па справах і з сябрамі; на адпачынку ў Доме пісьменнікаў, у Каралішчавічах. Гэты дом з 1950 года стаў лецішчам для Песняра. Колас ставіўся да гэтай мясціны з філасофскім спакоем і значнай доляй гумару, часам называў Камарышчавічамі і прысвячаў жартаўлівыя вершы.

Руплівым і дбайным гаспадаром, заўзятым грыбнікам і рыбаловам заўсёды паўстае Якуб Колас ва ўспамінах сучаснікаў і блізкіх сяброў. Да канца жыцця народны паэт сам даглядаў малады сад, які пасадзіў уласнаручна, давяраў народным прыкметам, клапаціўся пра добры ўраджай, эксперыментуючы з разнастайнымі доследамі. Новая стацыянарная экспазіцыя «Склеп» у гаспадарчай пабудове на сядзібе Якуба Коласа — гэта рэканструкцыя гарадскога склепа, характэрнага для сярэдзіны XX стагоддзя. Рэчы, прадстаўленыя ў экспазіцыі, лядоўня (першы халадзільнік без электрычнасці), разнастайныя спосабы захоўвання садавіны і гароднiны, а таксама традыцыйныя рэцэпты прыгатавання страў беларускай народнай кухні — яркае адлюстраванне нашай нацыянальнай ментальнасці і традыцый народнага харчавання.



Фота Кастуся Дробава.

*Падчас адкрыцця выстаўкі «Склеп».*

**Міра ІЎКОВІЧ**

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

*Не абмініце*

# Хараство з бабуліных куфраў

Прыгожы жаночы твар, акаймаваны бялюткай наміткай з паскам чырвонага арнаменту, глядзіць з вокладкі альбома «Традыцыйны беларускі касцюм», што пабачыў свет у выдавецтве «Беларуская навука». Падрыхтавалі яго вядомыя даследчыцы беларускага народнага тэкстылю Марыя Віннікава і Паліна Богдан, у актыве якіх — шматлікія выданні і публікацыі самага рознага кшталту па гэтай галіне нацыянальнай культуры.

І вось — шыкоўны альбом з сотнямі арыгінальных фотаздымкаў, якія прадстаўляюць традыцыйнае святочнае адзенне беларусаў ва ўсёй яго рэгіянальнай і лакальнай разнастайнасці, адпрацаванасці і вытанчанасці крою, арнаментыкі, каларыстыкі. Праўда, выданне не прэтэндуе на паўнату і ўсеахопнасць матэрыялу па адной з найбольш яркіх і багатых галін традыцыйнай мастацкай культуры беларусаў. Задача ставілася больш вузкая: данесці да шырокай грамадскасці часцінку тых скарбаў, што не адно дзесяцігоддзе збіраліся супрацоўнікамі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, сёння — Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук.

Спецыялісты добра ведаюць, якія мастацкія багацці захоўваюцца ў фондах аддзела старажытнабеларускай культуры, як і тое, што іх зборы традыцыйнага касцюма — адны з найбагацейшых у Беларусі. Часткова яны прадстаўлены ў экспазіцыі, што мае неафіцыйны статус музея і куды, у прынцыпе, пры жаданні няцяжка патрапіць. Але ж у экспазіцыі (як, зрэшты, і ў любым іншым музеі) дэманструецца далёка не ўсё. Да таго ж, касцюм у вітрыне ці на манекене не стварае таго ўражання, як на чалавеку, для якога ён быў прызначаны, як у тым прыродным ці рукатворным атачэнні, дзе ён глядзеўся натуральна і арганічна. Вось гэтую натуральнасць, паўнату мастацка-пластычнага выяўлення і паспрабавалі адлюстраваць аўтары альбома.





Зрэшты, гэта была ўжо заключная стадыя шматгадовай працы над выданнем. Бадай, толькі спецыялісты па-сапраўднаму могуць ацаніць увесь папярэдні аб'ём работы: у музейных ж сховішчы ўзоры традыцыйнага касцюма трапляюць не самі па сабе і ў большасці выпадкаў далёка не ў такім стане, як мы бачым на фотаздымках. Аўтары альбома не толькі шмат гадоў рупліва збіралі ацалелыя скарбы народнай мастацкай творчасці, але і самі прыводзілі іх у належны стан, нават аднаўлялі страчаныя ці папсаваныя дэталі і кампаненты. Такое вось грунтоўнае, усебаковае, дасканалае «пранікненне ў матэрыял» не магло не даць адпаведнага выніку. Да ўсяго, самі ж даследчыцы рабілі здымкі, сагітаваўшы прыхільнікаў традыцыйнай культуры апрануць традыцыйныя строі.

І вось жа якая цікавая рэч: гарадское дзяўчо мяняе звыклыя джынсы і красоўкі на традыцыйны святочны касцюм — і дзівосным чынамператвараецца, набывае нейкую асаблівую годнасць, зграбнасць, сапраўдную прыгажосць. А гэтае ж хараство стваралі нашыя продкі.

Матэрыял у альбоме размешчаны па агульнапрынятым прынцыпе — у адпаведнасці з гісторыка-этнаграфічным раяніраваннем Беларусі. У народным адзенні (ды яшчэ хіба што ў традыцыйных ручніках) рэгіянальныя і нават лакальныя адметнасці ў большасці выпадкаў даволі відавочныя. Здавалася б, кампаненты ўсюды адны і тыя ж: сарочка, спадніца, фартух, безрукаўка; мужчыны насілі штаны і падперазаную поясам сарочку. Аднолькавы, на першы погляд, і характар арнаментыкі: шлячкі ромбагеаметрычнага дэкору сімвалічнага чырвонага колеру кампануюцца па краях розных прарэхаў у адзенні, ахоўваючы такім чынам цела чалавека ад пранікнення злых сіл. Але асаблівасці крою, стылістыка кампанентаў, насычанасць дэкору і яго размяшчэнне нярэдка прыкметна розняцца, што і пастараліся паказаць аўтары выдання.

Праўда, не ўсё так проста. Ранейшыя выданні па народным адзенні дэманструюць яўную перавагу палескіх строяў і амаль поўную адсутнасць іх з Панямоння ці Паазер'я. Яно і зразумела: калі на Палессі традыцыйны касцюм, няхай сабе і прыкметна зменены, бытаваў яшчэ паўстагоддзя таму, то на той жа Віцебшчыне ён быў рэдкасцю ўжо ў пачатку XX стагоддзя, таму адшукаць тут сёння нават асобны кампанент — марная справа. Але зусім не дарэмныя высілкі руплівцаў — скажам, майстроў з Лепельскага раённага цэнтра рамёстваў, якія па рэдкіх ацалелых матэрыялах, архіўных і літаратурных звестках узнавілі (у тым ліку ў матэрыяле) колішні мясцовы касцюм — выразна адметны і вытанчана прыгожы. Ён таксама прадстаўлены ў альбоме, як і рэканструкцыі страчаных строяў, зробленыя (па распрацоўках аўтараў выдання) майстрамі прадпрыемства «Скарбніца».

У выніку матэрыял па адным з найбольш прадстаўнічых відаў нацыянальнай культуры пададзены па рэгіёнах адносна раўнамерна. Трэба, скажам, апрануць мясцовы фальклорны калектыў — можна не ламаць галаву ці распрацоўваць нейкі неіснуючы сярэднебеларускі варыянт адзення: бяры альбом, шукай патрэбны строй…

**Яўген САХУТА**

**Яўген САХУТА, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці:**

***— «ЛіМ» — адно з нешматлікіх выданняў, якое рэгулярна чытаю вось ужо амаль паўстагоддзя, і ці не першае, у якім калісьці пачаў друкавацца. Зрэшты, тады па пытаннях культуры больш нічога і не выходзіла. Цудоўна, што сёння ёсць выбар, і тым больш прыемна, што «ЛіМ» па-ранейшаму трымае ўзятую калісьці высокую планку.***

***Пакуль будуць творцы і прыхільнікі літаратуры і мастацтва (а яны, трэба спадзявацца, будуць), будзе жыць і «ЛіМ». Чаго і жадаю шаноўнаму выданню!***

# МУЖЧЫНСКІ ЗАПАЛ

## Працэс нараджэння новага жыцця ў арт-праекце «Апладненне»

**Канцэптуальнае мастацтва сёння даволі запатрабаванае ў свеце. Мастакі выбіраюць актуальныя тэмы і па-рознаму імкнуцца адлюстраваць іх, данесці найбольш арыгінальна. Хтосьці выпрацоўвае больш жорсткі стыль, каб узрушыць, хтосьці ўздзейнічае памяркоўна, праз падтэкст. Творчая суполка маладых беларускіх аўтараў «БТР» («Бюро творчых работ») манументальнай секцыі Беларускага саюза мастакоў паразважала над паняццем «апладненне»… і яго наступствамі.**



*Глеб Отчык «Водар апельсіна», 2016 г.*

У праекце, што прадстаўлены ў арт-гасцёўні «Высокае места», узялі ўдзел Васіль Зянько, Глеб Отчык, Андрэй Пяткевіч і Уладзімір Злянко, Генадзь Козел ды іншыя творцы. Назва і тэма праекта «Апладненне» спачатку скіроўваюць да інтымнага. Але ж гэта мастакі: развіваюць тэму нараджэння жыцця — як чалавечага, так і творчага. Тут няма месца сарамлівасці і скаванасці. Варта быць шчырым, інакш глядач не зразумее, дзеля чаго ўсё было.

Выстаўка адметная тым, што прадстаўляе толькі мужчынскае меркаванне і погляд. Жанчыны не заўсёды могуць гаварыць на далікатныя тэмы адкрыта. Мастакі арыентуюцца на замаскіраваныя пачуцці, даследуюць. Іх светаадчуванне схіляе да аналізу працэсу нараджэння. Так, напрыклад, ідэя, якая нараджаецца, становіцца пачаткам вялікіх адкрыццяў, а чалавек — стымулятарам жыцця. Вось і мастакі-ўдзельнікі ішлі ад імпульсаў і ўласных перакананняў. Паняцце «апладненне» ў іх трактоўцы атрымлівае шматграннае напаўненне. Менавіта слова «плод» — адпраўная кропка ў стварэнні шматзначных вобразаў, сюжэтаў: ад цалкам рэалістычных да філасофскіх разважанняў пра плады чалавечай дзейнасці як у звычайным жыцці, так і ў сферы мастацтва і літаратуры.

— Выдатна, што ў нас з'яўляюцца выстаўкі, якія закранаюць жыццёвыя тэмы, — адзначыла на адкрыцці выстаўкі галоўны спецыяліст галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінгарвыканкама Марына Ясюк. — Выстаўка — сведчанне не толькі таго, як ідэі ў мастакоў нараджаюцца, але



*Валянцін Нуднаў «Бэз у вазе», 2009 г.*

і як рэалізуюцца. Кожны, хто паглядзіць экспазіцыю ў арт-гасцёўні, зможа зарадзіцца энергіяй і ў выніку стаць адным з удзельнікаў творчасці: тэма кахання, гармоніі ніколі не страчвае актуальнасці.

Большасць мастакоў любіць працаваць індывідуальна. Ім патрэбны час, свабода мыслення, абстрагаванасць ад побыту і праблем. Як адзначае намеснік дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Наталля Сяліцкая, важна не баяцца выходзіць з майстэрні і аб'ядноўвацца. Як паказвае гісторыя, розныя мастацкія калектывы пасля сумеснай плённай працы пакідалі краіне вялікую спадчыну. «Бюро творчых работ» працуе ў гэтым кірунку актыўна: мастакі кожны раз узнімаюць нейкі праблемны «пласт» альбо, як самі кажуць, абсалютна вар'яцкія тэмы, прыцягваюць да мастацтва маладую актыўную аўдыторыю.

Напрыклад, работы Андрэя Пяткевіча, з аднаго боку, гумарыстычныя, з іншага — сацыяльныя. Вы не знойдзеце на іх людзей, галоўныя героі — жывёлы, паводзіны якіх скапіраваныя са звычак і манер людзей. Пра зараджэнне адносін сяброўства, кахання аўтару падабаецца казаць не прамым тэкстам — ён выбірае алегарычны метад, якім і падмацоўвае ўласнае меркаванне.

Тэму развіцця пачуццяў прыгожа раскрывае Станіслаў Гурскі, які цалкам разлічвае на каляровы эфект. Паводле яго версіі, адносіны пачынаюцца з белага колеру, затым часткі святла перамяжоўваецца з цёмна-карычневымі адценнямі. Чорны колер — цяжкі, але ж неабходны для эмацыянальнасці адносін і іх трансфармацыі ў больш сур'ёзнае рэчышча. Ці для разбурэння звычкі і абыякавасці. Аўтар упэўнены: адносіны будуюцца на імпульсах і жарсці.

Васіль Зянько дэманструе нараджэнне прыгажосці. У якасці галоўных герояў выкарыстоўвае, напрыклад, вобраз матылька. Праз тэму прыгажосці мы пачынаем суадносіць паняцці, з'явы: матылёк натхняе на разважанні пра прыроду, сланечнік — прамая адсылка да сонейка: насычаныя залатыя колеры напаўняюць цяплом.

Творы гэтых аўтараў называюць інтымнымі і мастацтвазнаўцы, і гледачы. Але самі мастакі адзначаюць, што прыметнік «інтымны» трэба разумець шырэй. Такія работы, безумоўна, інтэр'ерныя, але яны накіраваны на адзінства душ іх уладальнікаў. Іх не набудуць людзі, якія знаходзяцца побач, а ў думках — нібыта на іншых планетах. Тут творы для тых, хто залежыць адзін ад аднаго маральна ці разумее з паўслова.

— На маіх вачах стваралася суполка маладых творцаў «БТР», дзе кожны ўдзельнік працуе ў сваім кірунку, але пры гэтым час ад часу яны аб'ядноўваюцца і аналізуюць жыццё сумесна. Гэта не толькі таленавітыя мастакі, але і «цяжкая артылерыя Беларускага саюза мастакоў», якая працуе таксама над манументальным і архітэктурным тварам Мінска, — падкрэсліла старшыня секцыі манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Лада Сцефановіч. — Аднак паміж справамі яны, адрываючыся ад сем'яў, ствараюць жывапісныя работы, у якіх заўважны не толькі прафесіяналізм, — за імі чытаецца запал, задавальненне, голад да справы. І прадстаўленая канцэпцыя сведчыць пра мастацка-моладзевую неабыякавасць да свету, у якім яны жывуць.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Лілія Бусарава (Беларусь) «Калі прыходзіць цішыня», 2017 г.*

# ЖАНОЧЫ РОЗУМ

## праз сэрца і воўну

У Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў (пр-т Незалежнасці, 47) прадстаўлена міжнародная выстаўка з інтрыгоўнай назвай «Што ў жаночай галаве?», удзел у якой узялі мастачкі з Беларусі, Швецыі, Польшчы і Славеніі. Вось і падстава паразважаць, што жанчыны — такія жанчыны… Дзе б ні жылі. І пра што б ні стваралі. І які б від творчасці ці тэхніку ні выбралі.

**Рыгор СІТНІЦА,**
**старшыня Беларускага саюза мастакоў:**

*— Шаноўныя сябры, ад імя шматлікага калектыву ГА «Беларускі саюз мастакоў» шчыра віншую Вас з юбілеем славутай газеты «ЛіМ».*

*Сёння можна ўпэўнена сцвярджаць, што больш чым за восем дзесяцігоддзяў руплівай працы газета пераканаўча сцвердзіла сябе не толькі як годная трыбуна творчай інтэлігенцыі нашага Краю, але і як найважнейшы складнік нацыянальнай культуры.*

*Узгадваючы тыя часы, калі зранку да газетных шапікаў выстройваліся доўгія чэргі, каб набыць «ЛіМ» і «Огонёк», хочацца пажадаць сённяшняму калектыву газеты не толькі захавацца ў няпростых варунках цяперашняга часу, але і вярнуць сабе пазіцыі трыбуны для найбольш актуальных праблем сучаснасці.*

Праект, які спрыяе ўзмацненню міжнародных культурных сувязей, аднachасова накіраваны на падтрымку нацыянальных традыцый валяння: аб'екты дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва мастачкі рабілі з воўны. Але гэта якраз праява таго, як паступова (і ціха) жанчыны прыходзяць у тыя віды творчасці, што лічыліся мужчынскімі. Сапраўды, раней шапавальствам на Беларусі займаліся выключна мужчыны, а цяпер воўну ў якасці матэрыялу для творчасці выбіраюць у асноўным жанчыны: мяккая і падатлівая, яна пасуе вобразу крохкіх і пяшчотных істот. Але з воўны можна зрабіць вельмі трывалыя і грунтоўныя работы. Менавіта яны (не столькі сам матэрыял) сведчаць пра адметнасць мыслення і моцны характар сучасных майстрых.

Жаночае мастацтва цёплае, насычанае добрай энергетыкай. Жанчыны таксама, як і мужчыны, усё прапускаюць праз сябе. Выстаўка «Што ў жаночай галаве» — прыклад асэнсавання праблем і канфліктаў з процілеглым полам.

Аўтары акцэнтуюць увагу на ролі, якую яны выконваюць у сямейным жыцці, і імкнуцца паказаць, што з цягам часу навучыліся быць значна мацнейшымі і дзейнымі. Нягледзячы на значныя і непазбежныя сацыяльныя абавязкі, якія выконвае жанчына, аўтары паказваюць, што захоўваюць сувязь з мастацтвам як магчымасць паказаць унутраны свет. Яны нагадваюць кожнай з наведвальніц, што трэба адстойваць уласнае «я». І справа не толькі ў меркаваннях мужчын, частка якіх, нягледзячы на змену эпох, адмаўляюць жанчынам у праве быць разумнымі і паспяховымі. Справа ў жаноцкай самаацэнцы і ўпэўненасці, якой часам не хапае ў складаных сітуацыях.

Самаіроніі ў мастачак таксама не адняць: яны эксперыментуюць з сюжэтамі. Прадстаўніцы Беларусі, напрыклад, замест мужчын адлюстравалі ваўкоў. Ніхто не хацеў нікога пакрыўдзіць, проста, на погляд мастачак, жанчыны вымусілі мужчын быць дзікімі і асцярожнымі, але сітуацыю можна выправіць: крыху мяккасці і гармоніі...

Асноўная мэта праекта — паказаць свет вачыма жанчын з дапамогай лямцу — выразнага сродку сучаснага тэкстылю. Спецыяльным сімвалам выстаўкі стала сэрца, якое і ёсць сімвал жыцця, жаноцкіх пачуццяў, мрояў, думак.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Ганна Каралева (Беларусь) «Танчыць з воўкам», 2017 г.*

# Ён ніколі не памрэ

## Справы і спакусы Францыска, «доктара свабодных навук»

Жывы тыгровы пітон з імем Зіна пару метраў даўжынёй, пластычны і гладкі, палахліва ўецца ў акцёрскіх руках і кладзецца на спіну галоўнага героя. «Дзяўчынка на шары» Пабла Пікаса пацiху перасякае сцэну. Персанаж з далёкіх стагоддзяў паліць электронную цыгарэту, а пазней, вярнуўшыся з таго свету, спускаецца ў залу да гледачоў, трымаючы ў руках кальян. На цыркавым ровары ў беласнежнай балетнай пачцы праносіцца вястун і далікатны анёл з белымі крыламі. Кніга ў руках першадрукара ўспыхвае сапраўдным агнём. Юная гераіня Маргарыта ходзіць на пуантах. Не, яна не круціць фуэтэ, але здаецца, што лунае над зямлёй, таму што ўся паветраная і нерэальная. А Д'ябал-спакуснік пстрыкае фотаапаратам і робіць здымкі, пакідаючы сляды грахоў для будучых пакаленняў. Знойдзецца месца і для ўспамінаў пра Чарнобыль, калі з'явяцца дэзактыватары ў рэспіратарах і дапамогуць доктару, які жыў 500 гадоў таму, спраўляцца з чумой.

Такі свет, поўны загадак і нечаканых рашэнняў, прыдумаў магілёўскі рэжысёр Саўлюс Варнас для спектакля «Скарына».

«Доктарам свабодных навук» назваў драматург Мікалай Рудкоўскі сваю п'есу пра Францыска Скарыну. І гэта вельмі правільнае рашэнне, бо, здаецца, усе ведаюць гэтае імя, ды мала што вядома пра яго сапраўднае жыццё. Свабодна падарожнічаючы па Еўропе пяць стагоддзяў таму, лекар і багаслоў, асветнік і прадпрымальнік, навуковец і член масонскага таварыства мог валодаць усімі навукамі таго часу. Аднак у якасці прыярытэту ён выбраў кнігу — рэч, мала зразумелую яго сучаснікам, бессэнсоўную для непісьменных, якая не прыносіць даходу багатым, небяспечную для рэлігійных фанатыкаў.

У цэнтры гэтай першай прэм'еры ў гонар знакамітага першадрукара Францыска Скарыны зусім не гістарычнае даследаванне і дакладныя факты біяграфіі. Так, уласна, у гэтым выпадку цяжка і неабавязкова быць дакументальным. У рэшце рэшт, хто з упэўненасцю можа сказаць, пра што думаў і што ладзіў гэты чалавек 500 гадоў таму? А гэта ж і ёсць самае важнае — яго думкі і ўчынкі, што зрабілі яго вялікім і захавалі след у гісторыі. У мастака тут велізарнае поле для фантазіі.

Першым у сувязі з будучым спектаклем стаў фантазіраваць рэжысёр Саўлюс Варнас. Трэці год ён жыве ў Беларусі. Да гэтага была Літва, Вільня. Там у маленькім дворыку Старога горада ёсць помнік, прысвечаны Скарыну. Варнаса даўно зацікавіў гэты чалавек, які мог належаць Літве, Чэхіі, Германіі, Беларусі, усёй Еўропе, па якой падарожнічаў, даказваючы, што КНІГА — святая, асабліва Біблія, якую ён пераклаў на беларускую мову. Рэжысёр не надта любіць логіку на сцэне, аддаючы перавагу духоўнай практыцы і асацыяцыі. Варнас шукаў літаратара, які будзе адпавядаць яго задумам. Знайшоў яго ў асобе Мікалая Рудкоўскага.

Магчыма, Рудкоўскі не стаў бы пісаць па замове. У сваёй творчасці ён далёкі ад рэалізму, захапляецца новымі формамі. Тут жа намеры рэжысёра і драматурга супалі. А неўзабаве Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі і Нацыянальная бібліятэка абвясцілі конкурс на лепшую п'есу пра Скарыну ў юбілейны год беларускага кнігадрукавання. Фінансава іх падтрымаў Беларусбанк. На разгляд журы паступіла 32 п'есы. Якое ж было здзіўленне, калі менавіта Рудкоўскі атрымаў галоўную прэмію! У яго п'есе і новым спектаклі стрыжнем стаў лёс таленавітага мастака, якога выпрабоўваюць абставіны жыцця. Па сутнасці, кожны геній у чымсьці Фаўст, які жадае спасцігнуць ісціну. На яго шляху заўсёды з'яўляецца Д'ябал — Мефістофель. Скарыну прапануюць спакусы. Замест кніг — юную Маргарыту. Замест кніг — дабрабыт абываццеля. Замест кніг — сына. Легенда пра доктара Фаўста нарадзілася вельмі даўно ў еўрапейскім фальклоры. Павандравала па часах і краінах, натхняючы майстроў слова. Абессмяроціла вялікага Гётэ, які прысвяціў сваёй кнізе 70 гадоў жыцця. Плаўна перацякла ў наш час, страціўшы рэлігійныя карані, засяродзіўшыся на вечнай адзіноце творчай асобы. Ды ці мала яшчэ асацыяцый можа выклікаць гэтая амаль біблейская гісторыя!

Маё параўнанне з Фаўстам дазваляе выказаць здагадку, што Скарына — гэта Фаўст. Майстар — гэта Мефістофель. Артысты Іван Трус і Васіль Галец нябачна звязаны адзінай ніткай спакус, выпрабаванняў. Скарыну ў маладосці іграе артыст Іван Трус, яго герой — цікавая асоба:

— Найперш ён быў чалавекам — глыбокім, які сумняваецца. Чалавекам, якому даваліся прайсці праз многія выпрабаванні. Перачытаў пра яго дзясяткі кніг.

Думку акцёра падтрымлівае рэжысёр Саўлюс Варнас:

— Не было мэты аднавіць жыццё Скарыны. Куды важней распавесці пра духоўныя пакненні філасофа і мысляра. Пра яго рашучасць зрабіць нешта немагчымае. Гэтым немагчымым былі кнігі.

Спектакль пачынаецца са спрэчкі Скарыны і Майстра. Адзін — каля сцэны. Другі — у канцы глядзельнай залы. Страла запушчана. Публіку не пакінуць у спакоі, уцягнуць у дыскусію, загрузяць філасофскімі думкамі і сучаснымі асацыяцыямі. Нехта з тых, што сядзяць у зале, будзе адбівацца, не захоча ўдумвацца, палічыць форму размовы пра першадрукара занадта мудрагелістай, малазразумелай. Хтосьці ўбачаным і пачутым захопіцца, таму што спектакль правядзе Францыска Скарыну скрозь розныя часы і верне нам, цяперашняму пакаленню. Тэатр не прапануе лёгкага шляху, і, магчыма, спектакль у кімсьці выкліча раздражненне. Тады ўжо ні тыгровы пітон, ні анёлы на роварах не выратуюць. Але яны ж з'явіліся не дзеля забаўкі публікі. Яны матэрыялізаваліся з разважанняў і фантазіі. У спектаклі закладзена метафізічная сувязь паміж душой і целам, лёсам і чалавекам, Богам і яго тварэннем. Вымярэнне асобы галоўнага героя — філасофскае, паэтычнае, рэлігійна-ўзвышанае, ён прыўзняты над побытам. Прасунуты тэатр сённяшняга дня паказвае схаваныя пачуцці, сітуацыі і канфлікты, хаваючы пры гэтым само мастацтва паказу. Усё засяроджана на пластыцы і гаворцы акцёраў. У рэшце рэшт, тэатр — гэта ўсё ж гульня. На сцэне гульня становіцца жыццём.

Складаная повязь спектакля, зразумела, бянтэжыць гледача. Мастацтва заўсёды шукае новыя сэнсы і будуе тое, чаго дагэтуль не было. Са сцэны ідзе пасланне аб жыцці. Публіцы трэба будзе ўлавіць унутраныя ўзаемаадносіны часу, зрабіць праекцыю яго ў сённяшні дзень.



*Сцэна са спектакля «Скарына».*

Біблія — пачатак і завяршэнне ўсёй чалавечай мудрасці. У яе перакладзе на беларускую мову — подзвіг першадрукара. Незразумелае яго сучаснікам слова «пераклад» у спектаклі тлумачаць як замену старых слоў на новыя. Член журы конкурсу Анатоль Бутэвіч, пісьменнік, гісторык, грамадскі дзеяч, кажа:

— Акрамя імя мала што ведаюць пра Скарыну. Я б таксама не стаў пісаць простую біяграфію. Гэта сёння нецікава. Ісці следам за гледачом — не лепшая дарога. Трэба весці за сабой.

У пастку біяграфічнай і так званай «дацкай» п'есы патрапіць лёгка. Глядач чакае ілюстрацыі, праўдападобнасці, дакладнасці дэталяў, якія ўсім добра вядомыя. Аднак хто з упэўненасцю можа сказаць, што і як было 500 гадоў таму?! І толькі сапраўдныя майстры здольныя адсочваць вялікія драматычныя ўзаемасувязі, шукаць агульнае ў тым, што перажывалі героі тады і што перажываюць сёння. Яны адводзяць як выдуманых, так і рэальных персанажаў у краіну мар, жаданняў, страхаў, зносін з мёртвымі, падказак Усявышняга. Яны дадаюць да вядомага новыя радкі і вобразы. Для чаго? Каб закранула за жывое. Каб перавярнула наша жыццё, пераканала, прымусіла сумнявацца, думаць, падагравала эмоцыі.

Нехта калісьці вырашыў, што любы біяграфічны твор павінен быць прызначаны для школьнікаў. Ім неабходныя павучальныя ўрокі і крыху пафасу. Выгадаванае на лічбавых тэхналогіях пакаленне ўсё ж аддае перавагу яркай візуалізацыі, апакаліптычным і ўтапічным матывам, жаданню гавараць на складаныя тэмы з дапамогай кліпавасці і іроніі. Усё гэта маладое пакаленне бачыць на тэлеэкране ды маніторы камп'ютара, але нехта калісьці вырашыў, што гэтага не павінна быць у тэатры.

А тэатр хоча гарэзаваць, гуляць у небяспечныя гульні, быць лабараторыяй, сыходзіць ад сярэднестатыстычнага зручнага ўсім спектакля. Загадзя прадбачацца цяжкасці магілёўскага «Скарыны» па арганізаваных культпаходах школьнікаў. Адны будуць абурацца, іншыя — захапляцца. А, можа быць, гэта і добра, бо ў спрэчках нараджаецца ісціна.

У п'есе ёсць словы: «Людзі сыходзяць, а кнігі застаюцца». Д'ябал прапануе доктару Скарыну мора кніг за жыццё сына. Рашэнне прынятае. У фінале спектакля гучыць:

— Мы чуем тое, што павінны пачуць. І сваю місію таксама. Якой бы яна ні была. Акрамя несмяротнай душы ёсць яшчэ і нашы справы. Са смерцю жыццё не заканчваецца, але мы асуджаныя на смерць, калі не выканаем сваю місію. Калі я ажыццяўлю сваю місію, я ніколі не памру.

Пафаснасць гэтай прамовы — у духу задумы спектакля. Па жанры ён апокрыф. Патаемны, што не ўпісваецца ў звыклы канон.

**Таццяна АРЛОВА**

# ПлаSтычныя эксперыменты

Мастацтва рухаў, танцавальная эмацыянальнасць, дыялогі на мове цела зноў захапілі мінскага гледача. У мінулыя выхадныя прайшоў V Адкрыты форум эксперыментальных пластычных тэатраў Беларусі «ПлаSтформа Мінск-2017».

«ПлаSтформа» сёлета адзначае першы невялікі юбілей: форум пластычных тэатраў ладзіцца ў Мінску ўжо ў пяты раз. Дзейнасць форуму спрыяе развіццю эксперыментальнага пластычнага тэатра, бо дае артыстам магчымасць сустрэцца і абмеркаваць сваю творчасць, пачуць парады і заўвагі крытыкаў. Але галоўнае, што робіць «ПлаSтформа» для сваіх удзельнікаў, — гэта наладжванне шляху да аўдыторыі.

— Гледачы ўжо ведаюць, што такое «ПлаSтформа», — расказвае арт-дырэктар форуму, кіраўнік пластычнага тэатра «ІнЖэст» Вячаслаў Іназемцаў. — Сёлета мы не выдаткавалі на рэкламу імпрэзы ні капейкі: распаўсюдзілі інфармацыю ў інтэрнэце і прадалі ўсе квіткі за некалькі дзён, што сведчыць пра запатрабаванасць пластычнага тэатра ў Беларусі.

Усе спектаклі «ПлаSтформы Мінск-2017», якія прайшлі ў Нацыянальным цэнтры сучаснага мастацтва, па-свойму цікавыя. Паказальна, што зараз ідзе актыўная праца ў кірунку сучаснай харэаграфіі, але застаецца цікавасць і да іншых формаў пластычнага тэатра. Адметнымі былі спектакль-рытуал «Мова Х» ад эксперыментальнага тэатра «Галава-Нага», інтэрактыўная тэатральная імправізацыя лабараторыі акцёрскай пластыкі «Такт» Міхаіла Камінскага, перформанс ад лабараторыі руху Сяргея Паяркава *«STRUCTURES»*.

«ПлаSтформа» — наватар, і таму арганізатарам даводзіцца сутыкацца з цяжкасцямі. Асноўныя праблемы звязаныя з фінансаваннем, бо практычна ўсе выдаткі ляжаць на плячах арганізатараў праекта. Госці форуму заўсёды прыязджалі за ўласны кошт: шведы, датчане, палякі, латышы, літоўцы ды іншыя замежнікі атрымлівалі гранты на сваёй радзіме. Сёлета форум прайшоў без удзелу замежных тэатраў. Але ўвага да беларускага пластычнага мастацтва за мяжой засталася: галоўным экспертам форуму стаў Рышард Каліноўскі — танцоўшчык, харэограф Цэнтра культуры польскага горада Любліна.

— Надалей будзем займацца сваёй справай і развіваць «ПлаSтформу», — упэўнены Вячаслаў Іназемцаў. — Галоўнае — працягваць працу, а не чакаць цудаў.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

**Аляксей ДУДАРАЎ, драматург, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў:**

***— Калі я толькі пачынаў сваё жыццё ў тэатры (яшчэ як студэнт Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута), «ЛіМ» заўсёды разгортваў з жаданнем убачыць, што новага ў Купалаўскім тэатры, у тэатры імя Горкага, нашым знакамітым Тэатры юнага гледача. Газета давала ўсе анатацыі пра прэм'еры з фотаздымкамі, а калі ты яшчэ і сам туды трапіў як артыст, увогуле было свята. Дарэчы, словазлучэнне «Белыя росы» першы раз я ўбачыў у 1982 годзе, калі газета паведаміла пра вынікі конкурсу, дзе перамог мой сцэнарый. «ЛіМ» быў тым выданнем, якое аналізавала наш тэатральны працэс. Часы змяніліся, усё стала іншым, і тэатр — таксама. Але ў юбілейны год выдання хацелася б, каб яно ўзгадала, за кошт чаго атрымлівалася прыцягваць да сябе вялікую частку творчай аўдыторыі. Хачу пажадаць, каб наша легендарнае выданне больш увагі ўдзяляла тэатрам: іх стала трошкі больш, і тэатр стаў іншым. Дык кажыце пра тое, што прымаецца альбо не прымаецца ў тэатры.***

***У сваім актыўным творчым і грамадскім жыцці я заспеў часы, калі духоўнасць была найвышэйшай каштоўнасцю. Цяпер мы ўпэўніваемся, што не ўсё ў гэтым свеце вызначаецца матэрыяльным. Увогуле, матэрыяльнаму маліцца нельга: гэта грэх. А ёсць іншае — што адчуваецца, але памацаць ці пакаштаваць яго немагчыма. Немагчыма і без праяў чалавечага творчага духу. Таму я жадаю, каб наш «ЛіМ» быў сапраўдным аналітыкам нашага роднага тэатра.***

# НАША ШКОЛА

## Як забяспечыць скачок беларускаму кіно?

Добрае кіно пачынаецца з добрай рэжысуры. Беларускае кіно мінулых эпох таму сведчанне: яго стваралі прафесіяналы, асобы, якія глыбока адчувалі край, дзе працавалі, нават калі прыязджалі ў Беларусь па размеркаванні з ВНУ іншых рэспублік былога Саюза, у асноўным з легендарнага ВГІКа. Гэта адно з тых пытанняў, якія засталіся ў спадчыну ад былой кінаэпохі маладой краіне: адсутнасць уласнай школы, якая б рыхтавала кадры, здольныя працаваць на кінематограф незалежнай краіны, увасабляючы важныя для яе тэмы.

Тэма кіно цяпер для нас балючая. Не толькі для гледачоў, якія чакаюць адкрыццяў ці проста фільмаў, якія было б цікава глядзець сёння. Тэма балючая і для дзяржавы. Вырашаць яе ўзяліся па частках-сегментах, адным з якіх стала кадравае пытанне: Беларусі патрэбная свая школа, якая б клапацілася пра прыток спецыялістаў у кінагаліну. І вось ужо 7 гадоў на змену заслужаным майстрам прыходзяць рэжысёры і аператары, якія скончылі факультэт экранных мастацтваў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Менавіта там сёння адраджаецца айчынная кінашкола.

### ВЕДАЦЬ, КАБ ЗДЫМАЦЬ

Каб стаць студэнтам Акадэміі мастацтваў, трэба вытрымаць 3 этапы творчага конкурсу, а для адчування ўпэўненасці — нават пайсці на курсы падрыхтоўкі, дзе за палову года можна атрымаць мінімум патрэбных ведаў. Выпадковых людзей у акадэміі амаль не бывае, кажа дэкан факультэта экранных мастацтваў Павел Іваноў, таму што прыходзяць людзі з цікавасцю да кінамастацтва, але адзначае, што раней адбор быў больш жорсткім: «Паступіць на рэжысёра атрымлівалася толькі ў людзей з нейкім жыццёвым досведам, папярэдняй адукацыяй. Напрыклад, я сам па першай адукацыі — акцёр, і толькі ў 28 гадоў паступіў на рэжысуру. А сёння вучыцца ідуць адразу пасля школы, у 16-17...»

Тым не менш, згодна са статыстыкай, 90% выпускнікоў акадэміі ўсё ж застаюцца працаваць у прафесіі, значыць, ідуць у яе свядома. Тым больш што існуе і вялікі конкурс, асабліва датычна рэжысёраў кіно, дзе адбор наогул вельмі жорсткі. Некалькі гадоў таму ў акадэміі быў пазапланавы курс: Маргарыта Касымава выпускала рэжысёраў дзіцячага кіно. Паступілі на яго каля 8 чалавек, а дыплом атрымалі толькі трое. Умовы былі вельмі складанымі — не кожны змог вытрымаць і конкурс, і навучанне.

Рэжысёраў ігравога, дакументальнага і анімацыйнага кіно ў Акадэмію мастацтваў набіраюць раз на 5 гадоў. Пакуль дакладна не вядома, калі будзе наступны набор: краіна пераходзіць на Балонскую сістэму адукацыі, а для творчых спецыяльнасцей такая спецыфіка — яшчэ і цяжкасці ў змяненні адукацыйнага працэсу. Цяпер трэба будзе даваць веды, разлічаныя на 5 гадоў, за меншы тэрмін. Ці атрымаецца за гэты тэрмін «выкаваць» паўнавартаснага спецыяліста, які павінен выспець і як прафесіянал, і як асоба, калі гаворка пра рэжысёраў?..

Аднак камера моладзь вабіць. Вось і сёлета з акадэміі выпусцяцца 8 рэжысёраў кіно — даволі вялікая колькасць для маленькай краіны, мяркуе Павел Іваноў. Кожны з іх хоча здымаць сваё кіно, навучыўшыся ў выдатнага майстра. А іх у Акадэміі мастацтваў дастаткова: многія выкладчыкі тут — вядомыя рэжысёры. Сёлетніх выпускнікоў, рэжысёраў ігравога кіно, курыруюць мастацкі кіраўнік Рэната Грыцкова і педагог па рэжысуры Сяргей Шульга, дакументалістаў рыхтуе Маргарыта Касымава (за яе плячамі — шэраг дакументальных і ігравых фільмаў), мультыплікатарам выкладае Алена Турава, а дапамагае ёй зорка сусветнай анімацыйнай велічыні Міхаіл Тумеля. Адным словам — лепшыя, падсумоўвае дэкан: «Наогул, каб выкладаць у акадэміі, трэба быць майстрам сваёй справы, бо тых, хто жадае стаць выкладчыкам, хапае. Але выкладаць можа не кожны: тут і свая спецыфіка, і моладзь сёння інфармацыйна падкаваная, яе трэба зацікавіць».

Асаблівасць Акадэміі мастацтваў у тым, што выкладчыцкі састаў тут не можа складацца выключна з тэарэтыкаў — патрэбны спецыялісты-практыкі. Павел Іваноў адзначае, што выкладаць у акадэміі можа сабе дазволіць толькі забяспечаны чалавек: невялікія заробкі робяць працу спосабам атрымаць не матэрыяльнае забеспячэнне, а хутчэй маральнае задавальненне: «Людзі з неверагоднай колькасцю ўзнагарод працуюць у нас дзеля асалоды, уласнай зацікаўленасці. Выкладчыкі і самі атрымліваюць веды ад студэнтаў. Кажуць, што рэжысуры нельга навучыць, але можна навучыцца. Хоць гучыць і банальна, але гэта праўда. Студэнт можа выцягнуць з педагога ўсю неабходную карысную інфармацыю».

### УНІВЕРСАЛЬНЫ КІНЕМАТАГРАФІСТ

Дэкан адзначае, што акадэмія з задавальненнем запрашала б выкладаць хоць усіх вядомых рэжысёраў, але гэта фінансава немагчыма. Многія майстар-класы ладзяцца пры падтрымцы пасольстваў замежных краін — з іх дапамогай атрымалася правесці заняткі са спецыялістамі з ЗША, Японіі, Фінляндыі, Даніі, Нарвегіі, Ірана — і гэта няпоўны спіс краін. Падчас кінафестывалю «Лістапад» таксама запрашаюць вядомых кінематаграфістаў з постсавецкай прасторы.



*Кадр з фільма «Апошні шанц» (рэжысёр І. Васільеў).*

За 5 гадоў навучання студэнты Акадэміі мастацтваў могуць рэалізавацца ў прафесіі яшчэ да выпускнога. Будучыя рэжысёры маюць магчымасць карыстацца вучэбнай студыяй з усім неабходным: святлом, камерамі, экранам, павільёнамі для апаратараў, мантажнымі, студыяй для працы з гукам. Павел Іваноў дадае, што такім чынам цыкл атрымліваецца замкнёным: працаваць над фільмам можна ад пачатку да канца. Калі і гэтага недастаткова, то практыку можна праходзіць на тэлеканалах і кінастудыі «Беларусьфільм». Цікава, што студэнты ўсё робяць самі: у іх тут няма фатэля з надпісам «рэжысёр». Яны манціруюць, прадзюсіруць, дапамагаюць адзін аднаму са здымкамі, нават падпрацоўваюць акцёрамі, і гэта карысная школа: на ўласнай скуры можна адчуць, што такое быць асістэнтам, адміністратарам. Гэта дапаможа і на здымачнай пляцоўцы па-іншаму ставіцца да сваіх калег, разумеючы іх абавязкі.

Самі студэнты шукаюць і сродкі для здымак. Хоць перыядычна вучням акадэміі вылучаюць грошы з бюджэту, распавядае Павел Іваноў: «У адным з семестраў нашыя студэнты павінны прадставіць праект фільма, магчыма, эпізод — у аднаго чалавека будзе магчымасць ператварыць сваю ідэю ў кіно. Выбіраем праект з дапамогай пітчынгаў, гэта абавязковая практыка. Некаторыя гэтай магчымасцю нават не карысталіся ні разу, а хтосьці здымае і некалькі стужак на бюджэтныя сродкі».

Тое, што кіно за бюджэтныя грошы могуць здымаць не ўсе, — штуршок да спаборніцтва паміж студэнтамі: канкурэнтнае асяроддзе, якое чакае іх пасля выпуску, прапануюць адчуць і падчас навучання. Дэкан лічыць, што толькі так можна атрымаць неабходны стымул для развіцця, навучыцца прадаваць свой талент, а разам з ім — і кіно. Усё ж чыстай творчасці тут не бывае, як і ў любым з відаў мастацтва. Кіно без бюджэту не здымеш — яно патрабуе чалавечых намаганняў, ды і выдаткаў. Часам у здымках студэнтам дапамагаюць кінакампаніі, фірмы, якія спецыялізуюцца на святле: прадстаўнікі адной з такіх прыязджалі ў акадэмію на майстар-клас, і дырэктар прапанаваў прадастаўляць святло кінематаграфістам бясплатна, калі ў іх будзе што здымаць. Таму ўсе гатовыя ісці насустрач маладым кінематаграфістам. Сёлета студэнтам наогул пашанцавала: акадэмія добра папрацавала з «Беларусьфільмам» (кінастудыя выйграла тэндар на вытворчасць трох вучэбных кароткаметражных стужак), і будучыя рэжысёры атрымалі магчымасці для здымак, выдатную апаратуру.

### ЧАКАННІ І РЭАЛЬНАСЦІ

Акрамя супрацоўніцтва з нацыянальнай кінастудыяй студэнтам ёсць яшчэ чым ганарыцца: напрыклад, будучы дакументаліст Ягор Бякаў яшчэ на першым курсе атрымаў Гран-пры ў Тэгеране на фестывалі «100 секунд» (абышоў 107 канкурэнтаў з 46 краін), на «Лістападзе» акадэмія ўзяла дыплом на конкурсе кінашкол, у некалькіх замежных фестывалях перамагла студэнтка Нэла Васілеўская.

Сакрэт поспеху будучай стужкі ў многім залежыць ад выбару тэмы. Здараецца, што гэты этап для студэнтаў самы складаны. Трэба не толькі прынесці ідэю ці гісторыю, каб было зразумела, ці можна з гэтым працаваць, але яшчэ і напісаць сцэнарый, што не ў кожнага рэжысёра атрымліваецца. Мастацкія кіраўнікі ўсё ж знаходзяць падыход да студэнтаў, дапамагаюць, бо ў кадры не павінна быць нічога лішняга. І гэта таксама школа, бо, каб трапіць рэжысёрам-пастаноўшчыкам на поўны метр, гэтага трэба дамагчыся, і так не толькі ў Беларусі. Шлях да гэтага поўнага метра ў многіх ляжыць праз тэлебачанне, дзе здымаецца шмат усяго (тых жа серыялы), таксама — праз кароткаметражнае кіно (сёння шмат фестываляў, дзе можна заявіць пра сябе). Выкладчыца акадэміі Рэната Грыцкова таксама здымала кароткаметражкі, адна з іх перамагла на Ханты-Мансійскім фестывалі, менавіта там ёй прапанавалі здымаць поўнаметражнае кіно. Павел Іваноў кажа, што ў свеце кінематографа трэба даказаць, што ты можаш зняць вартае кіно, і толькі тады атрымаеш такую магчымасць. Таму будучыя рэжысёры здымаюць і кліпы, і рэкламу, і кароткаметражкі, і дакументалкі — сёння прафесіянал павінен умець усё, каб выжыць у канкурэнтным свеце кіно.

Мары пра вялікае кіно адразу, хутчэй за ўсё, не спраўдзяцца. Пасля выпуску чакае размеркаванне: рэжысёры кіно атрымліваюць адукацыю за дзяржаўны кошт, на платную форму студэнтаў тут не набіраюць, адзначае Павел Іваноў: «Ёсць праблемы з размеркаваннем, і гэта звязана ў тым ліку з рамонтам на кінастудыі. Мы ўладкоўваем выпускнікоў і ў прыватныя кампаніі, хтосьці становіцца выкладчыкам у дзіцячых кінастудыях. Але размеркаванне сёння не перашкода для здымак кіно: калі чалавек захоча, то знойдзе і магчымасць».

Сёння магчымасцей для здымак сапраўды шмат: нават мабільныя тэлефоны цяпер дапамагаюць зняць фільм, распаўсюдзіць які потым можна праз інтэрнэт. І гэтая свабода творчасці ўпэўніла многіх у тым, што здымаць сёння можа кожны. Таму шлях пяцігадовай адукацыі тыя, хто хоча быць "генераламі" адразу, прапускаюць і ідуць на курсы ў кінашколы. У нейкім сэнсе кінакурсы ствараюць канкурэнтную атмасферу: дзяржаўнае кіно пачынае засяроджана пазіраць у той бок, дзе з'яўляецца незалежны кінематограф. Але альтэрнатывай дыплому кінашколы назваць немагчыма, лічыць Павел Іваноў: «Добрую адукацыю можна атрымаць толькі ў спецыялізаванай навучальнай установе. Кінашкола — хутчэй гуртох па інтарэсах. Канечне, там камунікуюць, развіваюцца. Але па адным удалым прыкладзе фільма, знятага выпускніком кінакурсаў, нельга меркаваць пра тое, якім спецыялістам ты адтуль выйдзеш. Раней, ды і зараз, былі і ёсць прафесійныя напрамкі ў творчасці, а ёсць — аматарскія. І адчуць сябе рэжысёрам нікому не забаронена, але прафесія павінна быць нечым падмацаваная».

Гэтае меркаванне падзяляюць і студэнты Акадэміі мастацтваў. За 7 гадоў існавання факультэта адтуль выпусціліся 2 курсы рэжысёраў ігравога кіно, па адным курсе рэжысёраў анімацыйных стужак і дакументалістаў, аператараў, арганізатараў кінавытворчасці і кінадраматургаў. Многія з іх знойдуць сабе працу ў іншых краінах (некаторыя выпускнікі працуюць ва Украіне, Расіі, Кітаі, куды нашых спецыялістаў прымаюць нават без сумоўя). Але ж як гэтымі творчымі сіламі распараджаецца Беларусь, якой так неабходна новае, дальнабачнае кіно?..

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

**Людміла САЯНКОВА, кінакрытык, загадчык кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ:**

***— Я памятаю «ЛіМ» розных перыядаў, бо пражыла з ім вялікую частку свайго жыцця. Памятаю ступень папулярнасці: «ЛіМ» сапраўды быў выданнем з культурнымі традыцыямі і выклікаў пачуццё даверу і дачынення да нейкага кола выбраных. І я ўзгадваю той перыяд, калі трапіць у «ЛіМ» на працу было неверагодным шчасцем, быццам ты быў датычны да нечага асаблівага. Таму я жадаю, каб «ЛіМ» набіраў моц і быў такім жа значным выданнем для таго кола людзей, для каго культура з'яўляецца арыенцірам.***

На сваёй струне

Ларыса СІМАКОВІЧ



# АПОШНІ ГРЭХ КАМПАЗІТАРА

## (містычны жарт, альбо «далікатэс» на развітанне)

Тонкі гумар, самаіронія, лёгка народжаны і спрытна злоўлены жарт — здабытыя духоўныя каштоўнасці працяглага і доўгага жыцця. Жыццё Джаакіна Расіні, чые ўзлёты, падзенні, удачы, расчараванні ўзважваліся гумарам і ўраўнаважваліся ўсмешкай. Сам Бетховен даў першы ўрок тонкай іроніі маладому кампазітару: «Мне Ваша опера спадабалася. Мабыць, я напішу да яе музыку…»

Джаакіна Расіні навучыўся ўсміхацца. Мог паставіць у партытуры дынамічны нюанс у восем *piano*! Мог у прысвячэнні п'есы Напалеону III пералічыць усіх выканаўцаў, пачынаючы ад сімфанічнага і ваенна-духавога аркестраў, хору вяхроўных жрацоў, хору маркітантак, салдат і народа з танцамі, звонамі, барабанамі і пушкамі, і прыпісаць збоку: «Даруйце за драбніцу! Што так мала!»

Мог іранізаваць і пацвельвацца з сябе, са сваіх п'ес, называючы іх «Гігіенічным прэлюдам», «Астматычным эцюдам», «Кульгавым вальсам», а часткі фартэпіяннага цыкла абазначаць як «Анчоусы», «Карнішоны», «Алей»…

«Навошта Вам мая музыка, калі ў вас ёсць мой паштэт?» — мог запытацца кампазітар у каго заўгодна пасля чарговай прэм'еры оперы, якую Гегель, напрыклад, толькі за адзін месяц наведаў 12 разоў, Гейнэ перапрошваў за сваіх сучайчыннікаў і іх няздольнасць адчуць глыбіню, якую аўтар «прыкрыў ружамі»… Стэндаль (той самы, які паспеў у 1812 годзе пабываць і ў Оршы, і ў Смаленску, стаць сведкам Барадзінскай бойкі) у сваёй кнізе «Жыццё Джаакіна Расіні» аб'явіў кампазітару прысуд: «Слава Расіні можа быць акрэслена толькі межамі сусвету».

Непрадказальны, эпатажны, яркі і імпульсіўны, ён мог, даведаўшыся, што Паліна Віярдо набыла ў Лондане і прывезла ў Парыж аўтограф моцартаўскага «Дона Жуана», устаць перад партытурай на калені: «Хачу ўкленчыць перад гэтай святой рэліквіяй…»

*«Заставацца сабой — адзіны сродак мець поспех».*
Стэндаль

Джаакіна Расіні — звычайны геній. Яго загадку разгадваюць дасюль. У 37 гадоў кампазітар раптам змоўк. Амаль на 40 гадоў. Дакладней — на 39. На столькі, колькі на гэты час было напісана опер. Напісаных, пастаўленых і вядомых ва ўсім свеце. Знакаміты «Севільскі цырульнік» стварыўся за 20 дзён, за 40 гадзін — «Рамэа і Джульета», за сем дзён — опера «Альцында».

У 18 год зведаў першы поспех, першы ганарар за першую оперу і першы правал.

І раптоўна мяняе прафесію. Перастае ствараць музыку і пачынае ствараць рэцэпты. Рэцэпты салатаў (пра філе Расіні ў ХХ стагоддзі распавядаў герой Сяргея Даўлатава ў адным з апавяданняў).

Дзеля аднаго новага і мудрагелістага рэцэпта можна збегчы з уласнай прэм'еры оперы — каб запісаць, не забыць. Плакаў Расіні ў жыцці толькі двойчы: калі слухаў Паганіні і калі выпусціў з рук у сажалку прыгатаваную фаршыраваную індычку.

У свае 72 гады атрымліваў задавальненне ад жыцця. І, пэўна ж, заслужыў сваё гультайства: «Што датычна мяне, то я не ведаю больш прывабнага занятку, чым яда… Як каханне існуе для сэрца, так апетыт — для страўніка. Страўнік — капельмайстар, які кіруе аркестрам нашых жарсцяў і надае ім рух. Пусты страўнік падобны да фагота ці флейты-*piccolo*, калі ён буркаціць ад незадавальнення і перакочвае рулады ад жадання. А вось сыты страўнік — трохкутнік *(triangolo* — «ударны інстр.»*)* задавальнення і літаўры радасці».

Хто ведае, можа, прыдуманае аблічча выпадковай бестурботнасці — яшчэ адна ўласцівасць расініеўскага гумару, а рэчаіснасць — гэта мудрагелістая сумесь ветлівасці і гонару, ляноты і разважання, дасціпнасці і меланхоліі: «А каханне я разглядаю як прымадонну *par excellence*,



*Расіні на кухні.*

як багіню, якая працінае мозг кавацінамі, хмеліць слых і бярэ ў палон сэрца. Ежа, каханне, спевы і страваванне — чатыры акты камічнай оперы, якая завецца жыццём і знікае нібы пена шампанскага. Той, у каго жыццё праходзіць без асалоды, — робіць суцэльнае глупства». Расініеўскі гумар? Аптымізм? Ці хітрае вынаходніцтва пазбыцца душэўных страт — Ізабэлы Кольбран, прыгажуні, жонкі, лепшага сапрана XIX стагоддзя, самага бездакорнага ўвасаблення яго гераінь — Каралевы Лізаветы, Арміды, Джуліі, Донны Ганны, Семірамiды, Медэі…

### Сам сабе рэквіем…

Маэстра перастаў пісаць оперы, але не перастаў быць у цэнтры ўвагі музычнага свету. Слава не пакідала яго, нягледзячы на бестурботнае жыццё і кампазітарскае гультайства. Яго любілі за мінулыя музычныя шэдэўры.

Увесь Парыж па суботах нібы перазджаў у прыгарад Пасі да кампазітара на музычныя вечары. Дом нагадваў тэатральны вестыбюль. Дом, сад закладзеныя згодна з уласным планам і ўяўленнем. Італьянскімі мастакамі расписаны плафон вітальні, партрэты Палестрыны, Моцарта, Чымарозы, Гайдна. Для галоўнай залы створаныя партрэты Людвіка ван Бетховена і французскіх кампазітараў XVIII — XIX стагоддзяў. З нагоды адкрыцця новага сезона «музычных расініеўскіх субот» на браме дома штовесну вывешвалася ліра…

Кампазітару — 72. Прайшло 35 гадоў пасля напісання апошняй оперы. Цэлых 20 гадоў — пасля *«Stabat mater»* — твора зусім не опернага жанру. Самы час узносіць ухвальныя гімны Усявышняму… з куфлем шампанскага ў руцэ… Самы час спраўдзіць подзвіг творчага самаадданаўлення і напісаць маленькую… Месу. Пасля бетховенскіх, моцартаўскіх мес можна дазволіць сабе толькі… маленькую. Назваць яе «Урачыстай». Як Людвіг ван Бетховен.

Сціплась? Рахманасць? Жарт? Несумненна адно: праява надзвычайнага піетэту. Наваі у назве. Бетховенскай *«Messa Solemnis»* можна пакланіцца праз *«Petite Solemnis Messe»* Дж. Расіні і зрабіць своеасаблівае музычнае прынашэнне бетховенскай геніяльнасці і недасяжнасці.

Дапісаўшы апошні акорд «Маленькай урачыстай месы», кампазітар прамовіў: «Божа, вось і завершана гэта бедная маленькая Меса. Што я стварыў — свяшчэнную музыку ці д'ябальскую? Я быў народжаны для оперы-*buff*, ты гэта добра ведаеш, Божа. Трохі вучонасці, трохі сэрца, вось і ўсё, што ў ёй ёсць. Будзь благаславёны, Божа, і даруй мне рай».

«"Маленькая ўрачыстая меса" — апошні грэх маёй старасці», — напіша кампазітар на тытульнай старонцы партытуры і дадасць: пасля смерці выканаць у Парыжы, у італьянскім тэатры, дзе некалі быў дырэктарам.

Першы раз «Маленькая ўрачыстая меса» прагучала пад кіраўніцтвам самога маэстра 253 гады назад. 14 сакавіка. У мястэчку пад Парыжам.

### Con amore…

Паколькі «маленькая і ўрачыстая» задумвалася для выканання ва ўласным доме, то і выканаўцаў шмат не трэба: усяго 12 чалавек.

8 галасоў харыстаў і чатырох салістаў — сапрана, канральта (насамрэч *castrato*), тэнар і бас — дастаткова! Дванаццаць спевакоў — нібы дванаццаць «херувімаў»: «Бог дарые мне гэта параўнанне. Апосталаў таксама было 12 на знакамітай леанардаўскай фрэсцы. Хто мог падумаць! Сярод тваіх вучняў, Божа, ёсць тыя, што выдаюць фальшывыя ноты! Але супакойся, я абяцаю, што на маім сняданку не будзе Юды, а мае вучні будуць спяваць зладжана і пранікнёна — *con amore…*»

Аркестра не будзе. Толькі фартэпіяна і фісгармонія — «маленькая і ўрачыстая» таму што… Ёю распачнецца новы сезон «музычных субот» 1864 года. На календары — 14 сакавіка. За дырыжорскім пультам — сам маэстра.

Публіка… а публіка, як заўсёды, пачула па-рознаму і па-свойму. Яна не была адзінадушнай у адзнаках. Новы жарт кампазітара? Напалеон III, паслухаўшы, абурыўся: меса не такая ўжо і маленькая (каля 90 хвілін!), і не ўрачыстая (хутчэй камерная!), і нават не зусім «Меса»… Сольныя нумары, ансамблі — оперныя! Завяршаецца не грандыёзным, звычным, традыцыйным хорам, а праніклівай і трапяткой арыяй кантральта з хорам: *Agnus Dei*. Ёсць і музычная нечаканасць — інструментальны эпізод, які сам кампазітар назваў «Рэлігійнай прэлюдыяй», якая гучыць не ў самым пачатку (магла б быць Уверцюрай!) і не ў канцы (замест Фіналу!), а ў самым нечаканым месцы музычнай драматургіі…

Аднак Дж. Меербер, узрушаны пачутым, пажадаў Дж. Расіні пражыць яшчэ 100 гадоў — дзеля стварэння такой прыгажосці! І сабе самому Дж. Меербер пажадаў таксама пражыць100 гадоў — каб слухаць усё напісанае кампазітарам.

***

### …а сёння…

Сёння на буйных сцэнах «Маленькая ўрачыстая меса» гучыць рэдка. Гэта заўсёды музычная падзея горада, сталіцы. І гучыць трохі інакш. Сцэна вымагае больш шчыльнага гучання, значыць, павялічваецца колькасць спевакоў. Інструментальнае суправаджэнне вар'іруецца: фартэпіяна і фісгармонія, фартэпіяна і арган, два фартэпіяна. Пасля прэм'еры Расіні зрабіў інструментоўку. Лёгкую, празрыстую. Расіні быў прадбачлівым. Ён асцерагаўся, што хто-небудзь з сучасных кампазітараў абавязкова возьмецца аркестраваць Месу ў адпаведнасці са сваімі сучаснымі музычнымі густамі і загубіць тым самым некалькі вакальных галасоў, а разам з тым і яго самога: «Бо я ўсяго толькі бедны меладыст! Вось таму я і займаюся тым, што пішу суправаджэнне… якое не заглушае маіх бедных спевакоў…»

Партытура вытрымала 279 выданняў. Музыка выконваецца рэдка. Сапраўдны расініеўскі «далікатэс».

…Калі вы раптам на пачатку твора пачуеце знаёмыя інтанацыі П. І. Чайкоўскага з «Пікавай дамы» — не палохайцеся… Калі пачуеце першыя ноты знакамітай арыі караля Філіпа з оперы Дж. Вердзі «Дон Карлас» — не бянтэжцеся. Што гэта? Яшчэ адзін, гэтым разам містычны жарт? Супадзенне? Але слухайце далей! Не пераставайце слухаць! Гэта — Джаакіна Расіні!

### Фестывальныя «кантрапункты»

***Фестываль — гэта заўсёды адзінства: ідэі, мэты, зместу і формы.***

***Сэнсавае адзінства ствараецца сумеснымі намаганнямі выканаўцаў, слухачоў, гледачоў.***

***Музычны фестываль — як крышталны шар: «гуляе» гранямі ў нечаканасць. Вабіць кантрапунктам жанраў. Вымыкае прамяністасць і стракацць вабнымі спектрамі.***

***Кантрапункт жанраў прысутнічае ў праграме сёлетняга Міжнароднага фестываля «Duettissimo-2017». На сцэне Малой залы імя Р. Шырмы Беларускай дзяржаўнай філармоніі з першых сакавіцкіх дзён пачынаюцца Міжнародныя музычныя вечары фартэпіянных дуэтаў.***

***У адзін з першых вечароў прагучыць рэдкая, своеасаблівая, кранальная «Маленькая ўрачыстая меса» Джаакіна Расіні ў выкананні Дзяржаўнага камернага хору Беларусі пад кіраўніцтвам заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь галоўнага дырыжора Наталлі Міхайлавай у суправаджэнні фартэпіяннага дуэта — народных артыстаў Малдовы Анатоля Лапікуса і Юрыя Махавіча. Салістамі запрошаны Ірына Кучынская (сапрана), Кацярына Крашчук (меца-сапрана), Віктар Мендзялеў (тэнар), заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Громаў (барытон).***

***Яна прагучыць даўнім рэхам таго першага выканання — сакавіцкім, 1864 года, вечарам, у прадмесці Парыжа, у доме маэстра Джаакіна Расіні, сярод прыхільнікаў яго нязлоснага гумару, дасціпнага жарту і такой неабходнай нам праз усё жыццё мудрасці… Яго музыка, якая, паводле Анарэ дэ Бальзака, узбымае панурыя галовы і дае надзею маркотнаму сэрцу.***

**Міхаіл ДРЫНЕЎСКІ, народны артыст Беларусі, старшыня грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз музычных дзеячаў», мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага хору імя Г. І. Цітовіча:**

***— Узгадваю, што раней музыкі моцна сябравалі з газетай, а мы, у сваю чаргу, пісалі ў «ЛіМ» пра народную творчасць, нашыя музычныя дасягненні. І гэтая сувязь ідзе праз гады: газета да гэтага часу застаецца адным з самых дбайных выданняў, якія пішуць пра музычнае мастацтва і пра культуру наогул. Таму газеце жадаю доўгіх гадоў жыцця і бясконцага натхнення.***

# Старонкі з жыццёвага дзённіка

**Скульптар Максім Пятруль актыўна даследуе чалавека і з дапамогай розных прафесійных матэрыялаў імкнецца дакладна адлюстраваць мастацкую задуму. У Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў (пр-т Незалежнасці, 47) прадстаўлена выстаўка майстра «Эвалюцыя». Мастак дэманструе менавіта эвалюцыю сваёй творчасці, што стала магчыма за кошт пераходу ад «думкі-формы» да «думкі-матэрыялу».**



*«Артапалогія», 2013 — 2015 гг.*

Максім Пятруль — мастак адкрыты і эксцэнтрычны. Ён не баіцца разважаць на няпростыя тэмы ўслых, дэманстраваць іх праз творы, паказваць асабістыя перажыванні ў незвычайных формах. Для яго жыццё — філасофія, сінтэз высокага і нізкага, простага і складанага... Ён не абыходзіць увагай пытанні, пра якія звычайна спрабуюць маўчаць. Інтрыгуе гледача: сумяшчае іранічнасць, сарказм і драматычнасць.

Імя Максіма Петруля моцна гучыць у айчынным мастацкай прасторы. Дзёрзкія, эмацыянальныя творы сфарміравалі імідж аўтара як чалавека, непадуладнага меркаванням асяроддзя. Мастак цалкам паглыбляецца ў працэс, які, на яго погляд, натхняе нават больш, чым задума. Майстар любіць аб'ядноўваць некалькі скульптур разам. Яны могуць быць асобнымі экспанатамі, але ж у межах выстаўкі адыгрываюць кожная сваю ролю, як некалькі слоў аднаго сказа.

Кожная работа мае падтэкст, які складана зразумець з першага погляду. І нават калі глядач нібыта зрабіў высновы, майстар не згаджаецца: настойвае на абгрунтаванні. Напрыклад, у межах праекта «Эвалюцыя» прадстаўлены твор «*Elephantus*», які візуальна адпавядае сваёй назве. Калі твор быў прадстаўлены ўпершыню на персанальнай выстаўцы майстра, гледачы не сумняваліся, што гэта прыгожы слон, а мастак актыўна даказваў, што гэта тры аб'яднаныя паміж сабой трубы, не больш за тое.

Аўтар размаўляе з гледачом на мове бронзы, граніту, шкла, дрэва і нават паперы. Ён паспяхова сумяшчае некалькі матэрыялаў у адным творы, акцэнтуючы ўвагу на праблеме праз тэкстуру. Так, напрыклад, драматычны дыпціх «Плён сямейнай утульнасці» ілюструе вастрыню адносін паміж людзьмі, якія доўгі час знаходзяцца ў адным памяшканні. Нажы ў вазе — алегорыя неразумення і неўспрымання адно аднаго з-за рознага ўзроўню адчування жыцця. Дарэчы, гэты мастацкі твор выклікаў вялікую цікавасць у наведвальнікаў мастацкай выстаўкі-кірмашу «Восеньскі салон».

Як адзначае намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Леанід Хобатаў, калі мастак здольны цалкам увасобіць ідэю ў творы, тады да яго прыходзіць поспех. Максім Пятруль кажа, што скульптура — яго жыццёвы



*«Контрбаланс», 2015 г.*

дзённік, які дапамагае выплёскваць эмоцыі і глыбока пранікаць у кампазіцыю. Менавіта таму яго работы такія жывыя, дыялагічныя, адметныя моцнай энергетыкай.

Выстаўка атрымалася разнастайнай і глыбокай. Ёсць месца разважанням на тэму побыту, а ёсць расповеды пра сілу волі чалавека. Праект стаў вынікам эксперыментаў з пераўтварэннямі форм, матэрыялаў і сэнсаў як у асобных аб'ектах, так і ў творчасці наогул. Можа падацца, што работы простыя па форме, але гэта візуальны падман. Насамрэч для стварэння такіх сілуэтаў патрэбны час і ўважлівасць.

Рэтраспектыўная экспазіцыя акцэнтуе ўвагу на часе, які змяняе чалавека. Майстар падкрэслівае, што апошнім часам для яго найбольш важна выявіць магчымасці розных матэрыялаў.

**Вікторыя АСКЕРА, фота аўтара**




## Культурны ракурс



**Непадалёк ад горада Іванава, што на Брэстчыне, знаходзіцца былы маёнтак Варацэвічы, які ўзгадваецца ў пісьмовых крыніцах з канца XV ст. З пачатку XVIII ст. гэтымі землямі валодаюць прадстаўнікі роду Ордаў.**

11 лютага 1807 года ў сям'і Міхаіла і Юзэфы Ордаў нараджаецца хлопчык, якому бацькі даюць імя Напалеон у гонар імператара Францыі. Сёння мы ведаем яго як Напалеона Орду — вядомага ўсяму свету мастака, піяніста, кампазітара і педагога.

Пасля паражэння паўстання 1830 — 1831 гадоў мастак як актыўны яго ўдзельнік быў змушаны эмігрыраваць за мяжу, дзе правёў 25 гадоў. У Францыі Напалеон наведвае пейзажныя майстэрні вядомых мастакоў, бярэ ўрокі музыкі ў Франца Шапэна, становіцца вядомым як майстар ігры на фартэпіяна і як аўтар акварэльных работ. У 1843 годзе Орда быў дырэктарам Італьянскай оперы ў Парыжы.

У 1856-м мастак вяртаецца на радзіму і бярэ ў арэнду некалькі фальваркаў, актыўна займаецца сельскай гаспадаркай. Пасля паўстання 1863 — 1864 гадоў падазраваўся царскімі ўладамі ў падтрымцы паўстанцаў. Праз два гады яго арыштавалі па даносе і ўтрымлівалі пад следствам у кобрынскай турме цэлы год. Вызвалілі як «злачынцу чацвёртага разраду» пад падпіску, з указаннем месца жыхарства ў сваякоў у вёсцы Моладава сённяшняга Іванаўскага раёна. Менавіта тут нараджаецца яго знакаміты «ордаўскі» стыль, у якім і былі створаны ўсе наступныя акварэльныя работы.

Пры жыцці ўбачыла свет 8 альбомаў з 260 літаграфіямі на аснове малюнкаў Напалеона Орды. Вядома больш як 1000 малюнкаў нашага знакамітага земляка. Па іншых звестках, іх было звыш 2000.

Апошнія гады жыцця мастак правёў у Пінску. Памёр 26 красавіка 1883 года ў Варшаве, куды з'ехаў на лячэнне. Пахаваны, паводле завяшчання, побач з магілай маці ў Іванаве. 971 малюнак Н. Орды яго пляменніца Канстанцыя Скірмунт у 1886 г. перадала на захоўванне ў Кракаўскі музей, дзе яны знаходзяцца і сёння.

У 1997 годзе ў Іванаве адкрылі помнік знакамітаму земляку, які і адлюстраваны на прадстаўленым мною здымку.

**Уладзімір ЦВІРКА**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
23.02.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1620.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 561

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686